*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

www.nv-online.info

# Народная Воля

**№ 53 (3794)**

9 ліпеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



БИЗНЕС-НОВОСТИ

## Сколько стоит завод колесных тягачей?

*Как уже сообщалось, Беларусь решила продать ОАО "Минский завод колесных тягачей". Сколько стоит предприятие и за сколько его готовы купить?*




По мнению гендиректора ОАО "МЗКТ" **Виталия Вовка,** стоимость возглавляемого им предприятия *"примерно в десять раз больше"* по сравнению с оценками, которые приводятся в российских СМИ.

В частности, директор аналитического департамента российской ИК "Регион" **Валерий Вайсберг** сообщил изданию "РБК daily", что, согласно отчетности Минского завода колесных тягачей, предприятие может стоить примерно ***31 миллион долларов.***

Отвечая на вопрос агентства "Бизнес-новости", Виталий Вовк сообщил, что в настоящий момент оценка МЗКТ не проводилась. В то же время он подчеркнул, что цифры, которые приводятся в российской прессе, — *"это блеф".*

По словам гендиректора, в 2010 году, когда обсуждалась возможность интеграции МЗКТ в холдинг "Русские машины", проводилась предварительная оценка завода. *"По разным вариантам она тогда была от 140 миллионов до 215 миллионов долларов. Но за прошедшие годы у завода ситуация улучшилась и объемы стали больше",* — подчеркнул В.Вовк.

*"Я думаю, что мы сегодня стоим порядка 300 миллионов долларов",* — отметил собеседник.

Комментируя варианты участия российской стороны в акционерном капитале МЗКТ, глава госкорпорации "Ростех" **Сергей Чемезов** сообщил "РБК daily", что корпорация может приобрести 75% минус одну акцию белорусского предприятия. Виталий Вовк отметил, что *"варианты могут быть разные, вопрос — куда пойдут деньги".*

По словам В.Вовка, если деньги за акции МЗКТ пойдут в республиканский бюджет, то *"для республики это небольшие деньги, республика это не почувствует".*

*"Если пойдут в само предприятие, то есть ли смысл проводить оценку? Все равно деньги останутся, как говорится, в семье. Какая разница, сколько это стоит",* — сказал Вовк, подчеркнув, что стоимость и размер приобретаемого российской стороной пакета акций не являются принципиальными в случае инвестирования непосредственно в МЗКТ.

Виталий Вовк напомнил, что *"на уровне Минпромторга Российской Федерации и Госкомвоенпрома Беларуси подписан протокол об интеграции МЗКТ в российский оборонный комплекс". "Все работы идут по плану",* — добавил он.

Собеседник отметил, что пока на уровне российского правительства принято решение, что покупателем МЗКТ будет "Ростех". *"А дальше посмотрим",* — сказал В.Вовк.

Интерес к приобретению контрольного пакета акций МЗКТ проявлял также Нижегородский машиностроительный завод, который входит в концерн ПВО "Алмаз-Антей".

Говоря о предпочтениях самого МЗКТ, Виталий Вовк отметил: *"Мы всегда считали, что лучше всего работать в вертикальной интеграции. Вертикально интегрированные структуры более живучие, чем горизонтальная кооперация. Но, в конце концов, тот, кто больше и богаче, тот музыку заказывает".*

Собеседник подчеркнул, что *"пока у завода есть работа, есть перспективы, план развития". "Уважают всегда сильных, независимых. Поэтому чем будем сильнее, тем будем дороже стоить",* — сказал В.Вовк.

Он также добавил, что конкретная информация об интеграции МЗКТ в российский оборонный комплекс может быть озвучена осенью этого года.

## У Мінску з'явіцца парыжскі шпіталь

Пра гэта паведаміў пасол Беларусі ў Францыі **Павел Латушка**.

*"Мы працуем над будаўніцтвам у Мінску шпіталя з прыцягненнем фінансавых рэсурсаў банкаў Societe Generale і Credit Agricole",* — цытуе дыпламата interfax.by. Павел Латушка адзначыў, што бальніца ў Мінску будзе пабудавана *"па ўзоры аднаго са шпіталяў Парыжа".*

Па словах дыпламата, аб'ём крэдытных рэсурсаў, якія прадастаўляюцца на гэтую справу французскімі банкамі, ацэньваецца ў 115 мільёнаў еўра.

Акрамя таго, разам з французскімі партнёрамі плануецца пабудаваць у Гродзенскай вобласці цукровы завод. Латушка распавёў, што ўжо зарэгістравана юрыдычная асоба, якая будзе займацца будаўніцтвам цукраперапрацоўчага прадпрыемства. Чаканы аб'ём інвестыцый складзе каля 100 мільёнаў еўра.

## Расія абмежавала ўвоз свініны з Віцебскай вобласці

Раней былі абмежаваны пастаўкі прадукцыі свінагадоўлі з Гродзенскай вобласці Беларусі.

Абмежаванні тлумачацца выбухам афрыканскай чумы свіней.

Акрамя таго, мусіць быць перапынена сертыфікацыя прадукцыі са свініны, утворанай з выкарыстаннем мясцовай сыравіны з Віцебскай вобласці.

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў АСОБАХ



*Вярхоўны Савет Беларусі 12-га склікання (1990—1995 гг.) ужо ўвайшоў ў гісторыю.*

*25 жніўня 1991 года яго пазачарговая V сесія надала сілу закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі.*

*Велізарная заслуга ў гэтым кожнага з дэпутатаў тагачаснай парламенцкай фракцыі БНФ, у якую ўваходзіў і Алег Трусаў.*

*Першы нарыс з серыі пра дэпутатаў-змагароў Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання, якія, з'яўляючыся сябрамі Беларускага Народнага Фронту, уваходзілі ў апазіцыйную парламенцкую фракцыю, быў пра Галіну Сямдзянаву. Сённяшні — пра Алега Трусава* (гл. 6-ю стар.).

*Спецыяльныя публікацыі пад агульнай рубрыкай "Гісторыя Беларусі ў асобах" будуць прысвечаны ўсім сябрам фракцыі БНФ Вярхоўнага Савета 12-га склікання.*

МИРОВАЯ ТЕМА



## Египет: «Братья-мусульмане» призывают к восстанию после кровавых столкновений с армией

В Египте "Братья-мусульмане" выступили с открытым призывом начать восстание. Радикальные заявления исламистов последовали за столкновениями между сторонниками низложенного президента Мухаммеда Мурси и египетскими военными около штаб-квартиры республиканской гвардии в Каире. Они оказались кровавыми.

Как сообщило телевидение, в результате нападения погибли 42 человека, в том числе один военнослужащий. "Братья-мусульмане" заявили, что свыше 50 их сторонников погибли, более тысячи получили ранения. Они говорят о "расстреле демонстрации".

Участники протеста утверждают, что полиция и армия начала разгонять их демонстрацию без предупреждения во время утренней молитвы.

Сидячая забастовка протеста была устроена сторонниками Мурси возле штаба Республиканской гвардии в Каире.

По-другому описывают события представители другой стороны и СМИ. Египетские средства массовой информации сообщили, что военные открыли огонь после того, как демонстранты стали забираться на стены клуба. А демонстрант Махмуд Шилли сообщил агентству "Франс пресс", что войска использовали слезоточивый газ, а огонь на поражение открыла группа людей в штатском.

Представители армии заявили, что *"казармы пыталась штурмовать группа террористов, убив при этом офицера".* По их словам, 200 участников демонстрации были арестованы за ношение оружия, в том числе ножей.

По сообщению Вооруженных сил, сторонники Мурси похитили двух солдат. Сообщается, что их заставили сесть в автомобили вооруженные люди.

По словам корреспондента Би-Би-Си в Каире Джима Мюира, несмотря на противоречивую информацию о том, что конкретно случилось в понедельник, кровь была пролита, что еще более усугубляет и без того непростую ситуацию.

По всей стране жертвами столкновений с обеих сторон за последние дни стали уже десятки человек.

НЯШЧАСНЫ ВЫПАДАК



## Алесь ПУШКІН: "Дзяўчаты, што знаходзяцца ў рэанімацыі, чакаюць пераводу ў Мінск"

*Як многія ўжо ведаюць, у купальскую ноч з 6 на 7 ліпеня на падворку ў мастака Алеся Пушкіна ў вёсцы Бобр адбыўся няшчасны выпадак: пяць чалавек пацярпелі, дзве дзяўчыны ў цяжкім стане ў рэанімацыі.*

*Званок "Народнай Волі" заспеў Пушкіна ў Крупскай цэнтральнай раённай бальніцы, дзе ён наведваў пацярпелых. Двух мужчын, што атрымалі апёкі ад выбуху спірту, адпусцілі дахаты яшчэ ў ноч здарэння, а вось тры жанчыны застаюцца ў бальніцы дагэтуль.*

— Да малодшых дзяўчат (14 і 22 гады) мяне не пусцілі, кветкі таксама не прынялі, — *распавёў "Народнай Волі"* ***Алесь Пушкін***. — Нават шараговым супрацоўнікам хірургіі да іх нельга заходзіць. А з трэцяй пацярпелай Вольгай я сёння размаўляў. У 14-гадовай Ганначкі, дачкі Вольгі, моцныя апёкі спіны. У Марыны апёкі твару, рук, шыі, ключыц. Зараз яны чакаюць пераводу ў Рэспубліканскі апёкавы цэнтр у Мінску, дзе знаходзяцца ўнікальныя ложкі з вентылятарамі. Іх у краіне ўсяго шэсць. Маці Ганны звяртаецца да дактароў і вельмі просіць, каб ложак для яе дачкі вызваліўся як мага хутчэй...

**— Як адчувалі сябе пацярпелыя, калі вы везлі іх у шпіталь? У якім яны былі стане?**

— Хачу адзначыць, што медыкі спрацавалі вельмі прафесійна. Дактары дзейнічалі дакладна: адразу калолі абязбольваючае, потым апрацоўвалі апёкі тых, хто ў цяжэйшым стане, потым — тых, каму лепш. Вельмі ўразіла работа доктара **Аляксандра Корабава**. Ён працаваў, як робат — дакладна, канкрэтна, без лішніх эмоцый. Толькі пасля таго, як завяршылі ўсе медыцынскія працэдуры, патэлефанавалі ў міліцыю — інакш нельга. Потым я пісаў тлумачальную, размаўляў з праваахоўнікамі.

**— Выбух адбыўся, калі гатавалі крупнік. Кажуць, замест вады ў чан лінулі спірту. Гэта праўда?**

— У 23.55 я паглядзеў на гадзіннік, вырашыў, што трэба, каб яшчэ тры хвіліны пакіпела. Потым дадаў спірту ў той чан, што стаяў далей ад людзей. Усё атрымалася добра. А як выліў тры літры з бутэлькі ў іншы чан...

Першыя некалькі секунд я стаяў разгублены, зварушыцца не мог. А вось хлопец Мікола, мы нават прозвішча яго не ведаем, выратаваў Ганну. Ён паваліў яе ў высокую траву і збіў уласным целам полымя.

Мы везлі пацярпелых у шпіталь на некалькіх машынах. Дзянісу было дужа больна, яго дрыжыкі білі, а Аляксей трымаўся — у яго апёкі ў асноўным на руцэ. З дзяўчатамі было горш. Каб хоць нечым дапамагчы, мы давалі ўсім многа-многа чыстай халоднай вады.

У шпіталі ім адразу ўсім зрабілі абязбольваючыя ўколы, потым — ад сталбняку, апёкі папамазалі нейкай жоўтай пенай. Хлопцаў папрасілі распрануцца да пояса, і доктар іх агледзеў. Ён высвятляў, якія апёкі ад сонца, а якія — ад агню. Нарэшце пасля аказання ўсёй магчымай дапамогі іх адпусцілі дахаты, параіўшы прымаць анальгін.

**— Вы самі не пацярпелі?**

— Нейкім містычным чынам агонь абмінуў мяне. Са мною побач была маленькая дзяўчынка Даша, якой усяго 5 гадоў, і мая 22-гадовая дачка, у якой доўгія валасы, але мы ўсе цэлыя...

**— Вы ўжо заяўлялі, што ўсю віну бераце на сябе. Як на гэта рэагуюць сваякі пацярпелых?**

— Ведаеце, мне пасля здарэння патэлефанаваў адзін чалавек. Сказаў, што я не меў ніякага права рызыкаваць чужымі жыццямі. І ён меў рацыю... Патлумачыў мне: пацярпелых 5 чалавек, а ўва ўсіх іх яшчэ па двое бацькоў. Вось, кажа, вы і ўцягнулі 15 чалавек у гэтую справу...

Запытаўся ў мяне, ну чаму ж я гэты крупнік так рэкламаваў. Навошта прапаноўваў усім? Звычайна я гатаваў крупнік дома, на газе, там, дзе няма ветру, менш людзей. Навошта на гэты раз я казаў усяму натоўпу, што гатую крупнік па асобым рэцэпце? Я ж, дурань такі, зацікавіў людзей, яны стоўпіліся, схіліліся да чанаў, назіралі. Ну чаму, чаму ніхто не звярнуў на гэта маю ўвагу! Не сказаў: *"Дурань, ты падумаў, што робіш?!"* Мужчына ў 47 гадоў не павінен ўнікаць ад адказнасці. Бо толькі я вінаваты ў тым, што здарылася, у тым, што парушыў правілы пажарнай бяспекі.

### КАМПЕТЭНТНА

**Леанід ІВЕЦ, галоўны ўрач Крупскай цэнтральнай раённай бальніцы:**

***— Дзве дзяўчыны, 14 і 22 гадоў, у рэанімацыі. Стан цяжкі, у іх апёкі 1—3-й ступеняў. Робім усё магчымае.***

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

***Для даведкі***
***Крупнік** — традыцыйны алкагольны напой, падобны на лікёр. Гатуецца са спірту, мёду і спецый (карыцы, ванілі, гваздзікі, імбіру і мускатнага арэху).*



ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Генпрокурор не захотел отвечать матери Юрия Захаренко

***Расследование уголовного дела об исчезновении экс-министра внутренних дел Юрия Захаренко снова продлили — до 24 сентября.***

Начальник управления по надзору за исполнением законодательства Следственного комитета **И.Г.Севрук** утверждает, что расследование *"проводится в соответствии с требованиями Уголовно-процессуального кодекса, оснований для мер прокурорского реагирования не имеется".*



Генерал Захаренко пропал по дороге домой более 14 лет назад — в мае 1999 года. Где он, что с ним случилось после того, как неизвестные насильно затолкали его машину, — не известно. За эти годы родственники генерала получили сотни отписок за подписью тех, кто имеет отношение к следствию. Пишут одно и то же: расследование продолжается.

Что расследуют, кого допрашивают, за кем следят?.. Знают ли, где находится могила Захаренко или он сам?..

**Ульяна Захаренко**, мать экс-министра внутренних дел, которой в следующем году исполнится 90 лет, пару месяцев назад обратилась с просьбой к генеральному прокурору **Александру Конюку**: мол, расскажите, как расследуется дело, сообщите хоть что-нибудь! Конюк, видимо, решил, что это не его уровень. И тема скользкая, неблагодарная, в нынешней ситуации — совсем не карьерная. На ней дополнительных звездочек не заработаешь. Скорее наоборот. И поэтому вместо него формальный ответ на вопросы убитой горем матери прислал И.Г.Севрук. А Конюк вроде бы как и ни при чем.

Руководитель правозащитного центра "Правовая помощь населению" (Украина), бывший следователь прокуратуры **Олег Волчек,** который вместе с матерью Захаренко составлял текст жалобы генпрокурору, возмущен таким отношением к делу, которое одно время находилось на особом контроле у ответственных высокопоставленных чиновников.

*"К сожалению, развернутого ответа, на который так надеялись, мы не получили,* — комментирует Волчек. — *Мы просили генпрокурора в рамках закона о прокуратуре изучить наши требования и дать свой ответ. Вместо этого наши бумаги переслали в Следственный комитет, на который мы жаловались за необъективное расследование дела! Разве это нормально? И для чего тогда существует прокурорский надзор за следственными органами? Очевидно, что сегодня прокуратура фактически отстранилась от надзора за следственными органами. И это касается не только дел, имеющих большой общественный резонанс, но и обращений простых граждан, которые в конце концов обращаются за помощью к правозащитникам.*

*Судя по всему, дело Захаренко уже давным-давно не расследуется, просто каждые три месяца достается из сейфа для того, чтобы сделать пометку о продолжении сроков расследования...*

*Есть мнение, что следствие по этому делу давно закончено и имена тех, кто причастен к убийству Захаренко, известны. Нужна лишь политическая воля на то, чтобы в делах о громких исчезновениях была поставлена точка. Потому что в круг подозреваемых попали люди из ближайшего окружения А.Лукашенко..."*

**Марина КОКТЫШ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
9 ЛІПЕНЯ 2013 г.

АСОБА

# Проста плынь жыцця…



***Уладзімір Някляеў адзначае 67-годдзе. Два з паловай гады таму ён не стаў прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, але як быў, гэтак і застаецца паэтам. На гэтую пасаду, нават сфальсіфікаваўшы вынікі галасавання выбаршчыкаў, не выбіраюцца, на яе нельга прызначыць і з яе нельга зняць.***

***Паэзія Уладзіміра Някляева — нацыянальны здабытак. Гэта прызнае ці, ва ўсякім разе, прызнаваў, пакуль не зрабіў з Някляева крымінальнага злачынцу, Аляксандр Лукашэнка. Гэта прызнае і Зянон Пазьняк, які крытыкуе паэта за тое, што ён заняўся палітыкай. Увогуле ў Някляева цяпер даволі шмат апанентаў, кожны з якіх нібыта ведае лепш за яго, што і як яму рабіць. “Як вы да ўсяго, што вакол вас адбываецца, ставіцеся?” — задаў я ў размове з Уладзімірам Някляевым першае пытанне…***

— Спакойна. Навука паважаць людзей з іншымі поглядамі не самая лёгкая, але неяк я здолеў яе засвоіць — і права кожнага чалавека на асабістае меркаванне для мяне бясспрэчнае. “Слухай, дуброва, што лес гаворыць”, — казалі ў маім родным Крэве. Так што, мне здаецца, я нават не вучыўся — нарадзіўся з гэтым.

**— У розных даведніках пазначаны два розныя дні, у якія вы нарадзіліся: 9 і 11 ліпеня. Чаму так?**

— У нашай дзіўнай краіне ўсё падвойнае. Дзве мовы, два гербы, два сцягі... Вось і ў мяне два дні народзінаў.

Па словах маці — 9 ліпеня. Па словах бацькі (і запісе ў метрыцы) — 11 ліпеня. І хоць маці была, так бы мовіць, бліжэй да працэсу, але ж і бацьку, які, мусібыць, два дні гуляў, пакуль мяне ў метрыку запісаў, таксама засмучаць не хочацца. Таму ў абодва дні радуюся.

**— Што ў тых умовах, у якіх вы знаходзіцеся (пад наглядам крымінальна-выканаўчай інспекцыі), вас радуе?**

— Найперш тое, што нарадзіўся. Гэты неверагодны цуд мог і не здарыцца. Ні 9-га, ні 11 ліпеня.

Яшчэ радуе тое, што ёсць каханая, даўнія і верныя сябры, што мяне не пакінула паэзія. Хоць яна — дама вельмі раўнівая, магла і пакінуць.

**— Праз палітыку?**

— Больш няма праз што. Між іншым, прыняўшы рашэнне заняцца палітыкай, больш за ўсё я асцерагаўся расстання з паэзіяй. Не арышту, не турмы — расстання...

**— А што ў гэтыя дні засмучае?**

— Адзін з найлепшых сучасных паэтаў, народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін страчвае мову. Праз хваробу. Слова за словам. Я сустракаюся з ім — і мне сціскае сэрца. Ён мой сябар, я яго люблю, а сэрца сціскае яшчэ болей, калі думаю: гэтаксама сёння — слова за словам — разам са сваім найлепшым паэтам страчвае мову Беларусь. Гэтая думка, гэтая метафара мяне пужае...

**— Вы неаднойчы казалі, што менавіта сітуацыя з беларускай мовай, культурай і змусіла вас пайсці ў палітыку. Цяпер, прайшоўшы праз вельмі сур’ёзныя выпрабаванні, не шкадуеце пра гэта?**

— Стан мовы, культуры, стан беларускасці для мяне і сёння найпершая праблема. Хто б і як мне ні даводзіў, што спачатку дэмакратыя, а пасля ўсё астатняе. Дэмакратыі ў свеце, можа, і не хапае, але ўсё ж дзе-нідзе яна ёсць. У Еўропе, Азіі, Амерыцы, Аўстраліі... А дзе яшчэ ёсць Беларусь?

Нідзе яе больш няма.

Некаму яна са сваёй мовай, культурай, гісторыяй без патрэбы. А мне без патрэбы ніякая іншая.

Ды ніякай іншай Беларусі і не можа быць. Краіна з іншай мовай, культурай, гісторыяй — іншая краіна.

Вось такой, іншай, яе і робіць сённяшні рэжым. І пакуль ён будзе гэта рабіць, я буду яму супрацьстаяць. Усімі маімі сіламі і магчымасцямі. Таму я ў палітыку прыйшоў, таму ў ёй застаюся.

Ці шкадую, што заняўся палітыкай?.. Я ўвогуле не маю звычкі шкадаваць пра зробленае. Гэта згубная звычка, марная страта часу. Калі ўчора нешта зроблена не так — сёння перарабі. Не ўдасца сёння — паспрабуй заўтра. Штодзённа нешта рабі, а не сядзі і не енчы: “Ай-ёй, што ж гэта я нарабіў...”

Енк — слабасць. Я ў дзяцінстве бачыў, як ваўчыная зграя парвала сабаку. Пакуль ён стаяў, паварочваўся, не зводзячы вачэй з важака, ваўкі хадзілі кругам. Сеў і заенчыў — накінуліся і парвалі.

**— Наш свет ваўчыны?**

— Наш свет чалавечы. Хоць і з ваўчынымі звычкамі. Але звычак можна пазбавіцца. Усялякіх — і найперш звярыных. Пазбаўленне ад звярынага і ёсць — у маім разуменні — гісторыя чалавецтва. Гэта гісторыя культуры, якая і перарабляе звяроў у людзей.

**— Шмат хто даводзіць, што беларусы сваёй культуры ніколі не мелі, што яны выхаваны іншай культурай, рускай.**

— Давайце не будзем зважаць на тое, хто якую вярзе лухту. Культура ўзнікла хоць і на Усходзе, але не на нашым. Па Еўропе яна рухалася з захаду на ўсход, а не наадварот. І калі казаць пра літаратуру, якая ёсць найпершым складнікам рускай культуры, дык пачынальнікам, стваральнікам яе быў Сімяон з Полацка. Пасля ўжо быў Дзяржавін, які Пушкіна заўважыў…

Іншая рэч, у якіх умовах культура развівалася. Культура метраполіі мела адны ўмовы, культура калоніі — іншыя. Беларуская культура дасюль знаходзіцца ў каланіяльных умовах, і гэта найпершая прычына, па якой наша грамадства ёсць не беларуская супольнасць, а “славянскі базар”. Праз тое і ўсё астатняе ў краіне не нацыянальнае, не дзяржаўнае, а базарнае.

Зрэшты, тое самае адбываецца і ў Расіі і па тых жа прычынах. Руская культура, страціўшы імперскасць, якая была яе стрыжнем, прыйшла ў заняпад, і ніхто не парупіўся, каб яе падтрымаць. Усё пусцілі ў трубу.

**— Ліпень — не толькі месяц, у якім вы нарадзіліся, гэта яшчэ і месяц чарговага суда над вамі. Вас могуць зноў пасадзіць у турму, а могуць і вызваліць. Вы да чаго гатовы?**

—Да ўсяго. Як і суд гатовы да ўсяго, што яму загадаюць. Пасадзіць, вызваліць...

Я пра гэта не думаю. Вунь у мяне ўвесь стол незавершанымі рукапісамі завалены — няма калі пра суды думаць.

**— Калі чытаць тое, што напісана пра вас як пра паэта, можна заўважыць адну рэч: усіх здзіўляе, што якасць вашых твораў з гадамі толькі ўзрастае. У большасці ж паэтаў пік творчасці прыпадае на юныя, маладыя гады, пасля ідзе спад. Як гэта растлумачыць? І якія свае кнігі вы самі лічыце найбольш удалымі?**

— Найбольш удалыя сапраўды апошнія. Пачынаючы з кнігі “Прошча”, якая выйшла ў 1996 годзе. Мяне самога гэта здзіўляе, бо паэзія патрабуе неверагоднай энергіі, эмоцый, моцных пачуццяў. Магчыма, яны таму захаваліся, што я не траціў іх на абы-што. На зайздрасць, нянавісць. Людзі ў большасці сваёй, на жаль, страчваюць сябе пераважна на гэта — і да моманту, калі Гасподзь высылае ім рахунак за аказаныя паслугі, прыходзяць пустымі. Цуд жыцця застаецца неаплачаным.

**— Злу навучыцца прасцей, чым дабру…**

— Гэта праўда. І тут вельмі важна, каб пашчасціла з першымі настаўнікамі. Мне пашчасціла. Мой дзед па маці, які і быў для мяне такім настаўнікам, вучыў аднаму: любіць людзей. Казаў: “Усяму астатняму цябе людзі навучаць”.

**— Вам усё ж 67 гадоў — і здзіўляе не толькі ваша творчая, але і фізічная форма: ніяк не выглядаеце вы на свой узрост! Ёсць тут якія-небудзь сакрэты?**

— Няма. Але, калі трэба, дык калі ласка.

Па-першае, я не ўспрымаў і не ўспрымаю ўзрост як праблему. Кожны год не адымае частку жыцця, а дадае. Гэта не страта, а падарунак. І дзякуй Богу.

Па-другое, што, можа быць, сапраўды сакрэт, бо гэта важная выснова з майго жыццёвага досведу: чалавек малады ці стары не настолькі, наколькі блізка ці далёка бачыць мінулае, а настолькі, наколькі блізка ці далёка глядзіць у будучыню. У будучыню сваю, сваіх дзяцей, краіны, народа... Дык вось тут я адчуваю сябе проста несмяротным.

**— Тым не менш пасля турмы, пасля ўсяго, што з вамі было, як у вас са здароўем?**

— Усё са здароўем як мае быць. Не сказаць, што яго дадалося, але і меркаваць, што Бог гатовы выпісаць рахунак за аказаныя паслугі, падстаў няма.

**— У мінулым годзе выйшаў ваш раман “Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без”, які прызнаны адным з лепшых беларускіх раманаў і адзначаны прэстыжнай прэміяй Гедройца. А што ў гэтым годзе чакаць?**

— Гатовая да друку кніга “Знакі прыпынку”. Гэта не тое каб мемуары — дзённікавыя запісы. Не пазначаныя ніякімі датамі — проста плынь жыцця...

**Гутарыў Іван ГРЭКАЎ.**

## *Уладзімір Някляеў*

### *З кнігі «Знакі прыпынку»*

*** Прыснілася, што ёсць на свеце Бог.

*** З Піменам Панчанкам на пісьменніцкім з’ездзе стаялі на лесвічнай пляцоўцы і курылі. У зале пляскалі ў далоні, тупалі нагамі, свісталі, зганялі з трыбуны прамоўцаў. Пімен Емяльянавіч дакурыў цыгарку, кінуў акурак у сметнік і сказаў: “Трыццаць гадоў назад тупалі мацней”.

*** Інтэлігенцыя — не тая сіла, якая здольная справіцца з дыктатурай, тыраніяй; а тым больш не па сіле гэта інтэлігенцыі беларускай, пра якую народ нават не здагадваецца, што яна ў яго ёсць.

*** Прыйшла пара рухацца (Быкаў ужо ў Нямеччыне) з Варшавы ў Хельсінкі — і на развітанне з Зянонам Пазьняком і ягонай жонкай Галінай вячэраем у Чэслава Сэнюха. Для Чэслава Зянон — найганаровы госць, таму чаго толькі на стале нестае, а Галіна раптам кажа: “Як я дахаты хачу! Хоць на ваду і на хлеб, але дахаты...”

Я гляджу на Зянона — дзве слязіны ў вачах. Нейкае імгненне... Наплылі і высахлі, але след іх застаўся ў паглядзе.

Каб не заўважылі, як мяне торгнула, выйшаў нібыта перакурыць...

Радзіма — разуменне шкоднае.

*** Столькі сніцца ўсяго і ўсялякага, што варта было б неяк снам аддзячыць. Кнігу напісаць: “Неадплатныя сны”.

*** Ён ненавідзеў усіх: найбольш гэтых, але не менш і тых.

*** Рабіце ўсё, каб жанчыны ўсміхаліся... Бо ўсміхнулася Джаконда — і з’явіўся Леанарда да Вінчы.

*** Яе папрокі ён абвяргаў падарункамі.

*** Грошы — згуба для таленту, але ў вашага сына такі талент, што грошай у яго ніколі не будзе.

*** “І я дурань, і ты дурань”, — сказаў ён, напалову сказаўшы праўду.

*** Рыгор Барадулін тэлефануе і прагаворвае ў некага вычытанае: “Якім бы велічным ні ўяўляўся трон — усё адно на ім сядзіць задніца”.

*** Садом не ў гуморы.

*** Бліскучая фраза (хутчэй за ўсё французская прымаўка) у фільме Жана-П’ера Жэнэ “Амелі”:

*Калі палец указвае ў неба, толькі асёл глядзіць на палец.*

*** Культурны дом. Нацюрморт на кухні.

***Навакольнае асмяроддзе.

*** Паслясавецкая будоўля новага савецкага мінулага.

*** Што там ні кажы пра чалавецтва, а ўсё ж у большасці людзей прамая кішка знаходзіцца ніжэй за галаву.

*** Калі б на той свет можна было ўзяць грошы, той свет быў бы такім жа, як гэты.

*** У пошуках праўды страчваеш шчасце.

*** Неабвержных доказаў існавання нашага свету няма.

*** Незразумела было, што з гэтага павінна вынікаць, дык нічога і не вынікла.

*** Мой дзед Ясь казаў, калі я нецярплівы быў: “Некалі ты дазнаешся, што мудрасць — гэта трыванне”.

Доўгай дарогай прыйшоў я да разумення таго, што ён казаў.

*** І паліто ён даўжэй даношваў, чым насіў новае, і жыццё дажываў даўжэй, чым жыў.

*** Азіраючыся назад, бачыш, што памыляўся, а яшчэ праз нейкі час аказваецца, што памыляўся якраз тады, калі думаў, што памыляўся...

Бамаршэ сказаў: “Час — сумленны чалавек”.

*** З жывым не размаўляў. З нябожчыкам не змог.

*** Як вы мяркуеце: ён памёр у час ці не ўгадаў?

*** На карэннае пытанне: што ёсць жыццё і для чаго яно ёсць? — як не было, так і няма адказу. Чалавецтва як жыло, гэтак і жыве безадказна. Дык, можа быць, гэтае карэннае пытанне зусім не карэннае? Магчыма, у жыцця ўвогуле няма кораня.

*** Там, дзе ты не сам герой, там няма герояў.

*** Колькі чуў, колькі сам казаў: “Вось чалавек! Голая душа!..”

Пакуль не нагледзеўся стрыптызаў.

Душа, як і цела, павінна мець апратку.

*** З усяго, што было, згадваюцца найчасцей крэўскія пагоркі, па якіх іду, маленькі, і нанізваю на сцяблінку мятліцы сонейкі суніц.

КРЫМІНАЛ

## *У Мінску расстралялі чалавека*

*За апошні час гэта ўжо далёка не першы выпадак, калі ад стрэлаў гінуць людзі. І гэта ў мірны час! І пры тым, што супрацоўнікі МУС рэгулярна даюць справаздачы аб стала дзеючай акцыі “Арсенал”.*

Гэтым разам ахвярай стаў 33-гадовы мужчына. У яго стрэліў сусед. Вось як апісвае выпадак прэс-служба ўпраўлення Следчага камітэта па Мінску: *“Адзін з жыхароў Мінска, 1961 года нараджэння, знаходзячыся на балконе сваёй кватэры, стрэліў з гладкаствольнай стрэльбы ў суседа па пад’ездзе 1980 года нараджэння. Пацярпелы знаходзіўся на вуліцы, ад атрыманых пашкоджанняў памёр на месцы. Устаноўлена, што падазроны знаходзіўся ў стане алкагольнага ап’янення. Матывы здзяйснення злачынства высвятляюцца”.*

“Снайпер” затрыманы. Абставіны і матывы таго, што адбылося, высвятляюцца.

## *У Гомелі п’яны баксёр збіў васьмярых мінакоў*

*Кандыдат у майстры спорту па боксе, які прафесійна займаецца рукапашным боем, некалькі дзён таму беспадстаўна збіў на вуліцы Гомеля васьмярых мінакоў, у тым ліку трох жанчын. Адной з іх баксёр зламаў рабро.*

Як паведамляе прэс-цэнтр УУС Гомельскага аблвыканкама, у міліцыю паступіла паведамленне, што каля крамы “Тапаз”, размешчанага па вуліцы Жамчужная, адбываецца бойка. Сведкі сказалі, што хуліган, збіўшы некалькіх грамадзян, у тым ліку жанчын, уцёк у невядомым накірунку. Міліцыянты знайшлі баксёра ў адным з пад’ездаў жылога дома. Нягледзячы на супраціў і актыўныя спробы схавацца, хулігана затрымалі і даставілі ў райаддзел міліцыі для разбору.

Супраць хулігана ўзбуджана крымінальная справа.

## *У Клімавічах брат спрабаваў забіць 12-гадовую сястру*

*За замах на забойства роднай сястры арыштаваны 20-гадовы жыхар Клімавічаў (Магілёўская вобласць).*

12-гадовую дачку, якая ляжала ў крыві, знайшла маці, калі прыйшла ўвечары дахаты. Яна і выклікала “хуткую дапамогу”.

Як высветлілі супрацоўнікі следча-аператыўнай групы, на школьніцу напаў родны брат, які знаходзіўся ў стане алкагольнага ап’янення. Ён згвалціў малодшую сястру, а калі тая сказала, што раскажа пра ўсё маме, задумаў схаваць сляды злачынства. Ён ударыў дзяўчынку па галаве і стаў душыць, пакуль яна не страціла прытомнасць. Вырашыўшы, што сястра памерла, ён інсцэніраваў яе самагубства: парэзаў перадплечча і ўклаў у руку нож.

Раней зламыснік знаходзіўся на ўліку ў псіхіятра з дыягназам *“лёгкая разумовая адсталасць”,* аднак, як паведамляе прэс-служба УУС Магілёўскага аблвыканкама, па выніках комплекснай судовай псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы выяўлены раней дыягназ не пацвердзіўся.

Клімаўчанін абвінавачваецца ў здзяйсненні трох асабліва цяжкіх злачынстваў супраць асобы: згвалтаванне, гвалтоўныя дзеянні сексуальнага характару і замах на забойства.

**Вера ВІР.**

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



*Елена МОЛОЧКО*

## Это не ханжество. Это — гигиена

Канал СТВ, отменивший все-таки телепоказ финала конкурса “Мисс стриптиз” (ах, простите, “Мисс Минск-2013”), поступил мудро хотя бы потому, что у многих членов жюри — по совместительству работников канала дома растут дочки, и даже из родительского чувства осторожности им все-таки хватило ума не пропагандировать, так сказать, своими руками ночную жизнь Минска.

Иначе как после этого воспитывать детей?

И так в столице хватает рекламы порока — игорных заведений, клубов сомнительной репутации, казино. Большинство из них открыто работают на главных проспектах и улицах города, вывески аршинными буквами, все манит, все зазывает. Порок у нас и так практически легализован. И все якобы из-за бедности: мол, доходы от дьявола слишком велики, чтобы страна имела возможность думать о Боге и морали. Но предполагаю, ни одна мама и тем более папа в здравом уме не хотели бы видеть своих дочек в числе обслуживающего персонала заведений, где девушки получают гонорары прямо в трусики.

Но мне показалось, что отца у Яны Концевенко, чуть не получившей корону первой леди Минска, теперь, видимо, сброшенную с ее неразумной головы, как раз в их с мамой семье нет. Я не уточняла этот факт, но подозреваю, что дело обстоит именно так, потому что мама Яны где-то в сетях призналась, что ходит в ночные клубы вместе с дочкой. Оригинально, не правда ли? Какой бы отец семейства это одобрил или, скажем точнее, позволил своей жене? Другое дело, если женщина находится в свободном полете, в свободном поиске своей второй половинки... Но, на мой взгляд, в ночных заведениях можно найти кого угодно и что угодно, только не мужа. Впрочем, это уже действительно личное дело мамы Яны Концевенко. А дочку она, конечно, защищала как умела. Известное дело, у матери, как говорят в народе, кривое сердце, оно будет выгораживать дитя до последнего вздоха.

Но выгораживать — не воспитывать. А следовало бы... Во-первых, вовремя объяснить, что все напоказ есть дурной тон. Что прихоть тела — это еще не свобода личности. Мы же не кошки какие-то. Опять-таки живем не в племени бумба-юмба, у нас есть правила приличия: например, голых людей просто не принимают в обществе. На обнаженного человека смотреть, знаете ли, стыдно... Во-вторых, если ты таких свободных нравов, то фото, где ты топлесс, можно хранить в личном архиве, а раз сама выкладываешь их в сети на всеобщее обозрение, значит, позиционируешь себя определенным образом. Иначе, как писал когда-то великий Островский, за чем пойдешь, то и найдешь. Что, собственно, и “нашла” Яна: насмешки, издевки и оскорбления.

Хотя к путанам многие у нас относятся терпимо — разве нет? Говорят, их принимают даже на высшем уровне. Но короновать, делать лицом города существо (назвать ее девушкой как-то язык не поворачивается), так вот, существо, которое не отличает грязь от чистоты, для которого слово “стыд”, по-видимому, не имеет значения, — это уже через край.

Посмотрите, только-только пафосно отгремели салюты и речи Дня Независимости, вовсю шли приготовления к народному празднику Купалье, а в это время — театр абсурда! — под руководством государственного телевидения лучших девушек столицы выбирали (подозреваю, облизываясь от похоти) из стриптизерш и путан, точным глазом профессионалов отсеяв остальных. Таким образом, были запачканы все участницы конкурса, ни сном ни духом не имеющие отношения к ночным бабочкам Минска. Трехгрошовая опера, да и только.

Возмущение общества понятно. Возмущение не только Яной, но и членами жюри. Их неразборчивость возмутительна. И это не ханжество, отнюдь. Это — гигиена. Да, в мире есть скверна, грязь, блуд, бесстыдство, свинство и мерзость. Но — за чертой. За гранью. В определенных отсеках общества. В углах, закоулках, притонах и выгребных ямах. Борделях, в конце концов. Но психически здоровые люди сторонятся бездны, хранят себя и свои семьи от нее, обходят стороной. Потому что, когда эти пороки вторгаются в жизнь личности (естественно, по ее собственной вине), у человека начинаются трагедии, настоящие катастрофы. Падение и распад. Но опытные члены жюри, совершенно очевидно понимая, что за людской материал перед ними (а ролик, выложенный в интернете, это ясно доказывает), предлагали, кажется, порок сделать символом Минска. Так сказать, предложить нам новый идеал.

Накануне чемпионата мира по хоккею, скажем прямо, более чем экзотично.

Хотя, наверное, прибыльно.

Правда, лавры города Желтого дьявола уже давно достались другой знаменитой столице. Стоило ли тратить государственные средства, чтобы пытаться их отбирать?



Яна радовалась победе...



А это фото Яны Концевенко буквально взорвало интернет...

ВЕСТИ С ПОЛЕЙ

# В этом году у Михаила Солодухи будет немало конкурентов



*“Народная Воля” пообщалась с самым известным комбайнером страны и выяснила, почему он не любит путешествовать и отчего не ведется на щедрые обещания работодателей.*

Год назад наше свидание с комбайнером агрокомбината “Ждановичи” **Михаилом Солодухой** проходило почти в экстремальных условиях — в августовскую несусветную рань перед выходом уборочных машин в поле. Вернее экстремальными эти время и место были для меня, для Михаила Владимировича и его коллег тут все знакомо и привычно. В прошлом году Михаил, намолотив около 7 тысяч тонн зерна, стал самым успешным комбайнером страны, заработав за уборочную около 50 миллионов рублей.

Есть ли у Солодухи в этом году шанс повторить прошлый успех и намолотить рекордное количество зерна?

Телефонный звонок “Народной Воли” застал Михаила Владимировича дома — здоровье пошаливает. Несмотря на неважное самочувствие, первый комбайнер страны не отказался от беседы.

*— В этом году будет трудновато,* — признался многократный чемпион “Дожинок”. — *Были неблагоприятные погодные условия, пропало много озимых, пришлось пересевать. Да и немецкий комбайн Lexion есть теперь не только у меня — наш агрокомбинат закупил еще один, в Тарасово появилась парочка, еще несколько в других хозяйствах. Так что у меня теперь как минимум четыре новых конкурента. И это только в Минской области! Все-таки 26 лет здесь работаю! Здесь мои корни капитально вросли...*

**— Сегодня вас знает вся страна. Вы появляетесь на страницах газет, на телевидении. Популярность сильно изменила вашу жизнь?**

*— Я не сказал бы, что моя жизнь изменилась. Иногда люди узнают. Или где-то с кем-то встретишься, и человек понять не может, где он меня видел. Тогда начинаю объяснять: “Телевизор смотрели? “Дожинки” любите?” Так сразу вспоминают, где видели.*

**— После того как хозяйство приобретает новый комбайн, не звонят вам, не просят поделиться опытом?**

*— Многие руководители хотели бы видеть меня в своих коллективах. Обещали все что угодно — и деньги, и жилье, и новую технику. Но я со своего комбината не уйду.*

**— А супруга ваша так и называет вас своей *любимой звездой?***

*— Бывает. Может подковырнуть меня этим — назовет звездой телеэкрана...*

**— Не хотите попробовать себя на телевидении? У нас не очень много программ о сельской жизни, а вы — практик, много чего рассказать можете…**

*— У каждого свое предназначение. Я рожден для той работы, которой занимаюсь. Есть у меня разные интересы, бывает, попробую что-то, но, чувствую: не мое... Например, люблю работать с деревом. Отец много чему меня научил, могу и окно сделать, и двери. Но все-таки я привык к своей работе и менять ее не хочу.*

**— Насколько помню, ваши дети живут в Минске…**

*— Сыну — 20, а дочке — 19 лет. Сын закончил учебу и отработал распределение на “Амкодоре”, а в мае ушел в армию. Он в Минске служит, присягу недавно принимал, так его на два дня домой отпустили. Дочь работает на фабрике “Галантея”. Сейчас в отпуске, мы ее отдыхать отправили.*

**— А сами на юга к морю не собираетесь?**

*— Вообще-то я домосед. Летом у меня не получается не работать, так что отпуск я беру зимой. В 2007 году как-то поехал в санаторий, но дома все-таки лучше...*

Пожелав Михаилу Владимировичу скорейшего выздоровления, снова договариваемся на встречу. На этот раз — опять в поле. Через месяц-другой проверим, сможет ли кто-нибудь другой обойти нынешнего чемпиона!..

**Мария МАЛЕВИЧ.**

НУ І НУ!

## Пасля парада зноў залівалі яміны

Я жыву больш за 40 гадоў на вуліцы Куйбышава ў Мінску, яшчэ з той пары, калі па вуліцы не хадзіў ніякі грамадскі транспарт. Потым пусцілі тралейбус па адным маршруце, за ім — №52 з канцавым прыпынкам ля Дома быту на Камароўцы. Цяпер па вуліцы бясконца ідуць аўтамабілі, аўтобусы, тралейбусы, маршруткі... Па пятніцах нават няма сэнсу заходзіць у аўтобус, каб праехаць адзін прыпынак да дому, бо пешшу дабярэшся значна хутчэй.

Тры гады таму на вуліцы нарэшце знялі верхні слой асфальту і акуратна паклалі новы. Так было добра — дарога роўненькая, ехаць прыемна. Але праз які месяц па вуліцы пайшла ваенная тэхніка, якая літаральна ўзарала асфальт. Канешне, такога генеральнага рамонту больш не рабілі — ямы ды расколіны залівалі смалой з каменьчыкамі, але побач і на тых жа месцах з'яўляліся ўсё новыя і новыя яміны. Пасля сёлетняга парада зноў залівалі яміны. Не разумею, навошта было рабіць такі рамонт, ведаючы, што хутка пойдуць танкі? Ці нельга было зрабіць той рамонт пасля парада? Можа, хто-небудзь патлумачыць: ці існуе нейкае дарожнае пакрыццё, якое не баіцца танкаў? І калі ўжо немагчыма ўстрымацца, каб выкарыстоўваць ваенную тэхніку ў цэнтры горада, то чаму нельга зрабіць для гэтага такія дарогі, па якіх змогуць ездзіць і "мірныя" машыны?

**Вячаслаў ХАДАНЕВІЧ.**

*Мінск.*

ДЗЯКУЙ!

## Як бальзам на душу...

З невыказнай асалодай глядзеў і слухаў рэпартаж з Бразіліі, дзе праходзілі гульні на Кубак канфедэрацый па футболе.

Рэпартажы вяліся тэлеканалам Беларусь-2. За што вялікі дзякуй... І ў першую чаргу — Паўлу Баранаву, які цудоўна каментаваў кожную хвіліну матчаў.

Абодва рэпартажы паважаны спадар Баранаў вёў на беларускай мове, прадэманстраваўшы высокі прафесіяналізм спартыўнага журналіста і дасканалае, цудоўнае валоданне беларускай мовай.

Гэта было як бальзам на душу: і цудоўнае відовішча, і цудоўнае гучанне роднай мовы...

Звышдзякуй, паважаны Павел!

**Генадзь ПЯСЕЦКІ.**

*г.Слуцк.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Колькі каштуе гольф?

***Не адзін раз чуў, што гольф — вельмі дарагі від спорту. Хацелася б ведаць, колькі каштуе стварэнне беларускіх палёў для гольфа?***

**Ігар АНІСЕНКА, Мінск.**

У стварэнне гольф-палёў і адпаведнай інфраструктуры ў Беларусі ўжо ўкладзена больш за 20 мільёнаў долараў. І плануецца ўкласці яшчэ значна больш. Так гаворыць дырэктар СТАА "Гольф-клуб" **Андрэй Ніканёнак.**

*"На жаль, той, хто сутыкаецца з гольфам і прыводзіць яго ў краіну, у якой няма гэтай культуры, разумее, што гэта вельмі складана,* — цытуе словы бізнесмена belapan.by. — *Мы спадзяёмся, што з нашай дапамогай у Беларусі зразумеюць, што такое гольф, і змогуць да яго далучыцца, краіна атрымае гэты элемент сусветнай культуры".*

ДЫСКУСІЯ

# ...Каб не кульнулася піраміда

***На старонках "Народнай Волі" разгорнута дыскусія аб стане беларускай навукі, аб тым, у якім накірунку яна павінна развівацца. Выказацца, у першую чаргу з грамадзянскіх пазіцый, лічу неабходным і я.***



## Сакрэт формулы-максімы

Сёння ўжо цяжка сказаць, каму (Сакрату ці Платону, Арыстоцелю ці Дыягену, Піфагору ці Архімеду, Лао-Цзы ці Канфуцыю, Аль-Газалі ці яшчэ каму з мудрых старажытнасці) належыць адкрыццё гранічна простай формулы-максімы пра піраміду-трохвугольнік (як вобраз), якая абавязкова павінна абрушыцца-паваліцца, калі толькі не прытрымлівацца закона прыроднай адпаведнасці, калі не выконваць яго. Яны, мудрацы тыя, безумоўна, на свае вочы бачылі рознага кшталту разбурэнні, выкліканыя чалавечым фактарам. А прыродная адпаведнасць — гэта разумнае следаванне за творчым патэнцыялам прыроды.

На самым верхнім ярусе навукі, на вяршыні піраміды, па словах Э.Васільева ("Народная Воля", №43, 2013 г.), *"находится главный господарь (господин), на каждом ярусе свой господин или господинчик, все нижние находятся во взаимозависимости (от своего положения), но все зависят от главного".* Вось яна — вертыкаль пірамідальнага тыпу, дзе па законах кар'ернага росту з кожнага паверха-яруса яго прабывальнікі, асабліва вёрткапорсткія, з паразітарнымі інстынктамі хітраванцы і прахіндзеі, імкнуцца ўзняцца на вышэйшы ярус-паверх. Апускацца ж ніжэй там, як і ўсюды, тым болей добраахвотна, не жадае ніхто. І што маем у выніку актыўнай маральна-інтэлектуальнай дэградацыі? Аснова піраміды-трохвугольніка настолькі змяншаецца, а верхняя яе частка адпаведна прама прапарцыянальна разбухае, што піраміда-трохвугольнік абвальваецца. Гаворачы побытавай мовай, яе спасцігае кірдык, які пад сабой хавае амаль усіх, пачынаючы ад галоўнага гаспадара.

## У няволі навука не можа жыць

А цяпер трохі больш канкрэтна аб умовах, у якіх існавала ў недалёкім мінулым навука Беларусі як адгалінаванне ад навукі, кіруемай Масквой-Крамлём. А існавала яна ў незайздросных умовах. Вядома, быў пазітыў — поспехі (пераважна па абслугоўванні ваеннай дактрыны краіны), але негатыву было — хоць адбаўляй. Так, да прыкладу, мой знаёмы перад абаронай кандыдацкай дысертацыі ў акадэмічным інстытуце ў 1970-х гадах на тэму "Аб каапераванні біялагічных структур для іх далейшага развіцця" пры падрыхтоўцы ў замежную навуковую камандзіроўку атрымліваў інструктаж у асобым (трэцім?) аддзеле інстытута прыкладна такога зместу: "Я тоже когда-то проходил работу Владимира Ильича Ленина "О кооперации". Интересно, здорово, полезно. И вы придерживайтесь положений, заложенных там. И будьте бдительны". І гэтак далей, і таму падобнае. Вось абразчык кампетэнтнасці і дэмагагічнасці ахоўніка ад навукі. Інструктар той, зразумела, быў адстаўніком вядомай службы.

Горш і горай складваліся справы ў гуманітарных навуках. Там ад адных назваў тэм дысертацый можна было з н і я к а в е ц ь ("Роль КПСС в ...") і г.д. і т.п. і да бясконцасці. А калі знаёміўся з іх зместам — неабходна было мыць рукі і ісці на свежае паветра. Дзе сёння тая КПСС? На сметніку гісторыі! Праўда, з яе зменшчыкам пытанняў не было і пакуль няма. Карціна мала памянялася. Так і не ідзём мы за цывілізаваным светам.

Агульна вядома, што навука не можа жыць у няволі, па-за іншадумствам, без ерасі, асабліва ў яе грамадска-палітычным накірунку. Тут можна прывесці бездань прыкладаў таго, што было, што ёсць і што будзе. Калісьці, у 1985 годзе, супрацоўнік акадэмічнага Інстытута філасофіі і права Алег Бембель (сёння — манах Мікалай Жыровіцкага мужчынскага манастыра) выдаў у Вялікабрытаніі (Лондане) сваю кнігу "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс" (у СССР, а тым болей у БССР пабачыць свет яна палітычна-прынцыпова не магла) і, як кажуць, напоўніцу атрымаў на арэхі і абаранкі: яго выключылі з партыі, звольнілі з работы і пачалі "цягаць". Добра, што яшчэ ў мардоўскія лагеры не адправілі. Можна не сумнявацца, што ўратавала яго ад такога лёсу імя ягонага бацькі — народнага мастака БССР Андрэя Бембеля.

## А раптам Бальмонт зноў будзе пад забаронай?

У канцы 1960-х гадоў мне, студэнту філфака БДУ, загадчык кафедры рускай класічнай літаратуры, кандыдат філалагічных навук (кіраўнік маёй дыпломнай работы "Памфлет в творчестве русских революционных демократов") П.Ткачоў прапанаваў паступаць у аспірантуру на вочнае аддзяленне. На вучоным савеце кафедры мая кандыдатура была зацверджана. Здаўшы кандыдацкія мінімумы, я раптам даведаўся, што месца ёсць толькі завочнае. Але гэта не ўсё. Зацверджаная кафедрай мая тэма "Поэтическое мастерство лирики К.Бальмонта" нечакана апынулася заўчаснай. Маўляў, а можа, часы памяняюцца і Бальмонт ізноў будзе пад забаронай? Бяру новую тэму — "Поэтическое мастерство лирики А.Майкова"... Але сакрэт гэтай гульні са мной, будучым, як меркавалася, навукоўцам, быў вельмі просты. Паважаны мной адданы работнік бібліятэчнай справы ў былой Ленінцы пры маім чарговым наведванні агульнай чытальнай залы па сакрэце паведаміла, што "прыходзілі людзі (двое) у штацкім, па знешнім выглядзе і ўнутраным змесціве — вартыя жалю ўчарашнія ўцекачы з калгаснага раю", і цікавіліся, што я тут чытаю. А чытаў я з пазапраграмнай літаратуры А.Шапенгаўэра, Ф.Ніцшэ, М.Бакуніна, П.Крапоткіна, Э.Рэклю і многіх іншых. У беларускім аддзеле, дзякаваць Богу, пра мяне не пыталіся. Так, прынамсі, мне падалося. Такім чынам, пра сакрэт Палішынеля адносна мяне я тут жа здагадаўся. Загадзя ведаючы лёс маёй навуковай працы, я не стаў яе выконваць. Цана ж і значэнне многіх тагачасных "дысераў" па ўсіх накірунках, асабліва ў гуманітарыстыцы, добра вядомая. Іх проста штампавалі па пэўных лякалах. А небезвядомы Кім Хадзееў, зарабляючы ў некаторых будучых навукоўцаў, напісаў за іх не адзін "дысер". Для напісання аднаго яму хапала некалькіх тыдняў. А вядомы славіст-філолаг, перакладчык і рэдактар, супрацоўнік "ЛіМа" Алесь Мажэйка вызваляўся рэдактарам таго ж "ЛіМа" для перакладаў філасофскіх тэкстаў з польскай, чэшскай і іншых славянскіх моў для партапаратчыкаў-ідэолагаў, якія скарыстоўвалі іх, выдавалі за свае адкрыцці... і абаранялі дысертацыі. У тыя часы ў Югаславіі, Чэхаславакіі і Польшчы было ўсё ж нейкае ідэалагічнае разняволенне і, адпаведна, была свежая думка.

І яшчэ. Немагчыма не згадаць такую шырока распаўсюджаную сітуацыю-тэндэнцыю, калі суіскальнік-спашукальнік навуковай ступені падчас свайго аспіранцтва становіцца яшчэ і "прыгонным" у свайго навуковага кіраўніка-спакушальніка. Гэта значыць, што "паняволены" будзе выконваць усе просьбы-загады на выкананне тых ці іншых работ у "гаспадара" — дома, на лецішчы, у гаражы і таму падобнае. Вядома, што і пад уласнымі (асабістымі) публікацыямі, як правіла, сваё прозвішча ён павінен ставіць пасля прозвішча "гаспадара"-кіраўніка. Пераважна так замацоўваецца падмурак людскіх суадносін і ў сённяшняй нашай навуцы: жыццё адных за кошт іншых.



І не стаў я пісаць дысертацыю, а працягваў назіраць жыццё, зарабляючы на пайку хлеба то дворнікам, то вартаўніком, то яшчэ кім з гэтага разраду і, вядома, займаючыся самаадукацыяй, не співаючыся, пішучы вершы для сябе (у адрозненне ад тых, хто рыфмаваў радкі па ўзоры "Нам не страшна у бядзе, бо нас партыя вядзе" і друкаваўся бязмежна і бязмерна, узбагачаючыся матэрыяльна за сваё шкурніцтва і спекуляцыі, хоць маральна рабіўся жабраком). Праз пару гадоў (1971 г.) я ўладкаваўся на працу ў выдавецтва "Народная асвета" ў якасці рэдактара. І вось аднойчы Уладзімір Ляпёшкін, тагачасны дырэктар гэтай установы і паэт, паведаміў мне, што да маёй асобы была праяўлена цікавасць з боку тых "дзіравенскіх рабят" з пэўнай установы. А справа ўся і тут была ў тым, што я часта гаварыў услых, не азіраючыся, тое, што думаў, што адпавядала рэчаіснасці. "Рабяты" ж тыя займаліся не тым, чым павінны былі займацца. Яны паслугавалі таму адваротнаму, што разбурае грамадства і дзяржаву. Дык на каго ж яны працавалі і працуюць? А ім усё роўна. Ім абы добры наедак быў. Паступаючы на працу ў выдавецтва, я даў сабе зарок — не падпісваць у друк, а тым болей у свет, літаратуру антыбеларускай і антыбоскай скіраванасці. Дзякаваць Богу, на працягу трох дзясяткаў гадоў мне гэта ўдавалася. Гэта была і мая жыццёвая школа.

## Амаральнасць інтэлекту

За 30 гадоў працы ў выдавецтве прайшлося мне паназіраць за некаторымі тарбэшнікамі ад навукі — прафанатарамі, махлярамі, спекулянтамі і, канечне ж, прахіндзеямі-плагіятарамі, лайдакамі і халяўшчыкамі. Вядома, яны сядзелі на шыях, стаялі на плячах тых, хто працаваў сумленна і прадуктыўна і каму не дазвалялася працаваць на поўную моц інтэлекту і сумлення. Такім чынам, стваралася патавая сітуацыя, калі адны працуюць, а другія паразітуюць, адным словам — эксплуатацыя, ці, як пісаў паэт: "Оне работают, а вы их хлеб ядите". Таму нічога дзіўнага не было б, калі б у такіх абставінах раптам хтосьці з літаратуразнаўцаў узяўся абараняць кандыдацкі ці доктарскі "дысер" аб... паэтыцы грамадзянскай лірыкі В.Быкава ці з гісторыкаў — пра грамадска-культурніцкую дзейнасць Ф.Скарыны санкт-пецярбургскага перыяду. А што ўжо казаць пра юрыдычныя навукі, асабліва пра іх галіну — крыміналістыку. За столькі гадоў усім сваім корпусам яны на сляды зніклых відных дзяржаўных людзей і палітыкаў Беларусі — экс-міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Ю.Захаранкі, былога старшыні ЦВК В.Ганчара, прадпрымальніка А.Красоўскага, тэлеаператара Дз.Завадскага — так і не выйшлі. А можа, усім законнікам усё добра вядома, ды проста ў іх не хапае мужнасці сказаць праўду? Ці вось яшчэ. Ніхто пакуль не назваў імёнаў забойцаў беларускага генія — Янкі Купалы. У дадзеным выпадку маем дыягназ: *"некампетэнтнасць і праява амаральнасці інтэлекту".*

Так, навука сапраўдная тады, калі яна — маральная. Інакш атрымліваецца, па словах выдатнага арабскага мысліцеля Аль-Газалі, аберацыя, калі з боку вучонага заўважаецца няведанне або веданне непатрэбшчыны і няпраўды. Вось жа з гэтай прычыны доўга ішлі да чытача са сваёй творчасцю М.Гарэцкі і М.Зарэцкі і многія іншыя выдатныя беларускія майстры слова. А Віктар Вальтэр са сваім геніяльным раманам-дыягназам, эпікрызам беларушчыны "Народжаныя пад Сатурнам", уваскрошаным паэтам і краязнаўцам С.Панізнікам, так і не ўведзены ў навуковы ўжытак афіцыйнай навукай. А сучасная афіцыйная гістарыяграфія імкнецца вярнуцца да тых камуністычных пазіцый, калі, па яе мерках, гісторыя Беларусі пачыналася з 1917 года. Больш таго, знаходзяцца там такія гісторыкі і публіцысты, што адмаўляюць К.Каліноўскаму ў беларускасці. Прароча калісьці вялікі І.Гётэ казаў: *"Адніміце ў народа нацыянальнага героя — і вы будзеце мець не народ, а калектыўнага лёкая".* А хто з прыўладных структур звярнуў увагу на створаны светлай памяці Ф.Піскуновым "Вялікі слоўнік беларускай мовы", які зрабіў адзін чалавек (і не філолаг-лінгвіст), што не пад сілу часам цэламу калектыву? І вось жа не будзе нічога дзіўнага, калі знойдуцца такія калектывы вучоных, якія стануць адмаўляць права на існаванне беларускай мовы.

## Фундамент павінен быць моцным

Але вернемся да нашых баранаў — да беларускай навукі і яе акадэміі. Несумненна, фундамент любога ўтварэння застаецца моцным на вякі, калі ён адчувае фундаментальны аб сабе клопат. Так і ў навуцы, калі будуць весціся фундаментальныя даследаванні шырокага спектра праблем як фізічнага, так і духоўнага быцця людзей, тады навука мае перспектыву. А інакш не спазнае яна парад чалавеку на яго зямным шляху ад Творцы. А інакш надстройка задушыць базіс.

Адзін толькі сацыяльна-спажывецкі падыход да навукі як жывога арганізма, адсутнасць там здаровага ідэалізму, высокай маральнасці, грамадзянскасці, узнясенне да нябёс так званых кіраўнікоў ад навукі, развіццё не лепшай афарбоўкі канфідэнцыяльнасці па схеме "знізу наверх", вядзе да эрозіі-карозіі, зноў жа ў пераносным і расшыральным разуменні — да застою, а спадарожна да суцяжніцтва, здзірніцтва, карупцыі і ў рэшце рэшт — да калапсу. Да лёсу памянёнай вышэй піраміды-трохвугольніка, формулу якой, можа, адначасова, а мо і кожны паасобку адкрылі яшчэ мудрацы старажытнасці, назіраючы розныя віды падзенняў розных структур.

**Яўген ГУЧОК,**
**літаратар, ветэран працы,**
**73 гады.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Нават і тупік захапіў «язык»

**Дэпутаты Гомельскага гарадскога савета прынялі рашэнне аб перайменаванні 78 вуліц, завулкаў, алей і нават тупікоў. Вуліца Журавінная стала Журавлиною, Прамяністая — Лучистой, Сядзібная — Щедрой і г.д.**

*Даўно ўжо душы прашчураў збалелі,*
*І шлюць яны дакор нам праз вякі:*
*Не ў іх імёнах вуліцы, алеі*
*І нават "абруселі" тупікі.*
*Народа лёс пастаўлены на шалі:*
*Ці застанецца*
*Праз дзясятак год?*
*Чужынцы на зямлі запанавалі,*
*Тутэйшыя ж забылі радавод.*
*Ды веру я:*
*Жыццё паверне крута*
*Да далягляду, дзе наш прашчур знік,*
*І назавём мы "вуліцай Манкуртаў" —*
*Як напамін! —*
*Замызганы тупік...*

## Пры гэтым ладзе ўсё ў закладзе

**Напярэдадні святкавання 1150-годдзя Полацка ў горадзе адкрылі помнік дойліду Іаану. Аднак ніхто з месцічаў не ведае, што гэтая скульптура за даўгі аддадзена ў заклад адной з будаўнічых фірм.**

*Народ пакорны, без'языкі,*
*Таму і мае лёс благі:*
*Усе жывём мы за пазыкі,*
*Усе ўвагналіся ў даўгі.*
*...Былі святымі нашы продкі*
*І пазычалі напавер.*
*Аднак ніхто не выдасць сродкі*
*"На слова чэснае" цяпер.*
*Даверу больш няма і блізка!*
*Каб штосьць пазычыць (нат няшмат!),*
*Або патрэбная распіска,*
*Або маёмасць у заклад.*
*Таму не думайце, што здуру*
*Ці каб смяяўся ўвесь народ,*
*"Заклалі" гэтую скульптуру.*
*Усё трапляе ў абарот!*
*Вунь нават нашая дзяржава,*
*Каб захаваўся існы лад,*
*Здае налева і направа*
*Усё, што мае, пад заклад.*
*Найперш закладзеная мова.*
*Каб мець з Расіяй "бляск і шык",*
*На мову ўскінулі аковы —*
*Паўсюль запанаваў "язык".*
*Заклалі потым і святыні —*
*"Пагоню" і спрадвечны сцяг:*
*Маўляў, мы засталіся тымі,*
*Як пры Саветах.*
*Той жа шлях.*
*Затым пайшлі заводы, трубы —*
*Усё пусцілі ў абарот,*
*Каб не дайшоў рэжым да згубы,*
*Не разяўлялі людзі рот...*

* * *

*Пакуль манкурты пры пасадзе*
*(Народ, ты іх сысці прымусь!),*
*Пры гэтым ладзе ўсё ў закладзе.*
*І нат краіна Беларусь.*

АКТУАЛЬНА

## Бальнічныя лісты будуць аплачвацца не ўсім

***Чула, што ў Беларусі зацверджана новае Палажэнне аб парадку забеспячэння дапамогамі па часовай непрацаздольнасці і па цяжарнасці і родах. Якія змены адбыліся?***

***І.ДРОЗД, Мінскі раён.***

**Першае.** Згодна з новымі правіламі, цяпер бальнічны не будзе аплачвацца першыя шэсць дзён, калі прычынай захворвання або траўмы сталі ўжыванне алкаголю, наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і іх аналагаў, таксічных або іншых адурманьваючых рэчываў.

Трэба адзначыць, што падобная практыка пакарання пацыентаў, якія нанеслі шкоду свайму здароўю ў стане алкагольнага або наркатычнага ап'янення, існавала ў савецкія часы. Тады такім пацыентам не выпісвалі бальнічны ліст, а выдавалі даведку. Па гэтай даведцы першыя шэсць працоўных дзён, якія з-за хваробы чалавек быў вымушаны прапусціць, не аплачваліся. У Беларусі апошнім часам лісткі непрацаздольнасці выдаваліся ўсім пацыентам, але тым, хто звяртаўся ў шпіталь або паліклініку ў стане алкагольнага або наркатычнага ап'янення, у бальнічным рабілася адпаведная пазнака. І ўжо працадаўца вырашаў, як паступіць з такім работнікам. Яму маглі не аплаціць бальнічны або аплаціць не ў поўным аб'ёме, а, да прыкладу, напалову.

**Другое.** У два разы — з 6 да 12 дзён — павялічыўся перыяд, на які дапамога па бальнічным будзе налічвацца ў памеры 80 працэнтаў сярэднядзённага заробку. Раней лісткі непрацоздольнасці аплачваліся па схеме: першыя 6 дзён хваробы чалавек атрымліваў дапамогу, якая складала 80% ад заробку, а далей на ўвесь перыяд хваробы — 100% сярэднядзённага заробку. Чаму вырашылі пераглядзець такі нарматыў? У Міністэрстве працы і сацыяльный абароны заявілі: маўляў, дапамога па часовай непрацаздольнасці з'яўляецца сацыяльнай выплатай, а не заработнай платай, таму страчаны ў сувязі з часовай непрацаздольнасцю заробак не павінен кампенсавацца ў поўным аб'ёме.

**Трэцяе.** З 2 да 6 каляндарных месяцаў павялічаны перыяд, за які вызначаецца сярэднядзённы заробак для вылічэння дапамогі па бюлетэні. І трэба меркаваць, на гэтым дзяржава таксама сэканоміць. Заробкі і цэны ў нашай краіне, як вядома, павышаюцца перыядычна. І зразумела, што заработная плата ў момант хваробы і паўгода таму можа значна адрозніваца. І калі вылічваць сярэдні заробак за 2 апошнія месяцы, ён, вядома ж, будзе вышэйшым, чым сярэдні заробак за паўгода. Гэта значыць, сама выплата па бальнічным лісце з увядзеннем новых правілаў зменшыцца.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ВОПРОС—ОТВЕТ

# Когда будут судить врачей «Экомедсервиса»?

***5 мая было возбуждено уголовное дело по факту смерти пациентки частного медицинского центра "Экомедсервис". Сообщалось, что директор центра и врач-анестезиолог находятся под стражей. Был ли суд по этому делу?***

***И. Семенова, Минск.***

Нет, судебных слушаний по данному делу еще не было. Как сообщила официальный представитель Следственного комитета Беларуси Юлия Гончарова, в настоящий момент идет предварительное следствие. "Как только дело будет передано в суд, об этом будет сообщено дополнительно", — отметила представитель СК.

Но некоторые новости в этом деле есть.

Недавно была изменена мера пресечения с содержания под стражей на подписку о невыезде и надлежащем поведении для генерального директора "Экомедсервиса" Галины Волжанкиной. На данный момент в СИЗО остается только анестезиолог-реаниматолог центра, участвовавший в пластической операции, после которой умерла 23-летняя Юлия Кубарева.

Обвинения, предъявленные гендиректору и врачу-анестезиологу, остаются прежними. Руководителя медцентра обвиняют в служебной халатности, повлекшей по неосторожности смерть человека, ей предъявлено обвинение по статье 428 УК, которая предусматривает серьезное наказание вплоть до лишения свободы сроком на 5 лет. Анестезиолога-реаниматолога обвиняют в ненадлежащем исполнении профессиональных обязанностей медицинским работником, повлекшем по неосторожности смерть пациента. Ему предъявлено обвинение по ч.2 статьи 162 Уголовного кодекса. Максимальное наказание по этой статье такое же — 5 лет лишения свободы.

В статусе подозреваемых в совершении преступления, квалифицированного как ненадлежащее исполнение профессиональных обязанностей медработником, повлекшее по неосторожности смерть пациента, продолжают оставаться хирург, проводивший операцию, и две медицинские сестры. Они были отпущены под обязательство о явке еще в мае. Также в статусе подозреваемого в совершении преступления, квалифицированного как служебная халатность, повлекшая по неосторожности смерть человека, остается главный инженер "Экомедсервиса". Он также провел за решеткой несколько дней и 10 мая был отпущен под обязательство о явке.

Что касается Галины Волжанкиной, то на телефонные звонки она не отвечает, ее мобильный телефон выключен. Родственники гендиректора также отказываются от каких-либо комментариев. Медицинский центр "Экомедсервис" продолжает оказывать медицинские услуги пациентам, в том числе и хирургические. Министерство здравоохранения прекратило действие лицензии центра только на оказание анестезиолого-реанимационной помощи.

**Мария ЭЙСМОНТ.**



НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ!

# Крепостной педиатр,
## или С чем сталкиваются в глубинке молодые врачи

*В августе в белорусские больницы и поликлиники придут вчерашние выпускники медицинских университетов. По распределению они обязаны отработать 2 года. Сегодня чиновники от медицины любят повторять, что в вопросах распределения будущих медиков многое изменилось, что выпускников не загоняют работать на периферию, считаются с их мнением, а в столице остаются буквально все желающие.*

*Рассказ интерна **Михаила КАДОЛА** опровергает все эти доводы.*



Михаил говорит, что обратился в "Народную Волю" от безысходности.

— В прошлом году я закончил Белорусский государственный медицинский университет по специальности "педиатрия", — рассказывает Михаил. — Учился на бюджетном отделении, в вуз поступил сразу после окончания Ждановичской средней школы.

Интернатуру — 7-й год обучения, когда выпускники уже имеют диплом, но еще не имеют права работать самостоятельно, а должны совершенствоваться в профессии под руководством опытных врачей, — я хотел проходить в Минском районе. Поэтому и написал заявление с просьбой предоставить мне первое рабочее место в Центральной районной больнице Минского района в Боровлянах.

Преследовал две цели. Первая: буду честен, хотел подучиться. Я был не самым лучшим студентом, средний балл аттестата 6, и мне очень хотелось попасть к опытным врачам, в медучреждение, где есть хорошая база. К тому же я хотел быть ЛОР-врачом. Вторая: я живу с мамой в Минском районе, в частном доме с печным отоплением. Мама — пенсионерка, я ее единственный помощник. Оставаясь в Минском районе, я бы и маме помогал, и с жильем у меня проблем не было бы. К тому же у меня проблемы со здоровьем, за годы учебы "заработал" язвенную болезнь. Дома был бы диспансерный учет, необходимая диета.

К слову, есть правила распределения, в которых записано, что должны учитываться личное мнение выпускника, его семейное положение, состояние здоровья. Но я не совсем понимаю, по какому принципу у нас распределяют студентов.

В Минском районе не хватает врачей, как и по всей стране, дефицит педиатров налицо. В Центральной районной больнице Минского района мне согласились предоставить рабочее место. На распределение я принес гарантийное письмо из этой ЦРБ. Но... Меня распределили участковым педиатром в Березинскую центральную районную больницу. Т.е. туда, где нет хорошей лечебной базы. Как, собственно, и многого другого.

Когда я приехал в Березино, выяснилось, что мне негде жить. Администрация стала метаться в поисках жилья для молодых специалистов, потому что по распределению я приехал в больницу не один. Сюда же были распределены выпускники Гродненского медуниверситета. Уговорили санитарку взять меня к себе на постой. Полторы недели я жил у санитарки в одной комнате с ее сыном-алкоголиком. Но, как говорится, и на том спасибо: приютили, не оставили на улице.

Потом предложили общежитие. Поехал его смотреть. То, что я увидел, — это был не просто шок. Я человек неприхотливый, но даже мне сложно представить, как можно жить в таких условиях. Причем туда селят молодых специалистов, которых направляют по распределению с целью, чтобы они остались в райцентре и после отработки положенных двух лет!

Здание деревянное, старое, с дырявыми, прогнившими полами. Крысы там бегают даже днем. Нет душа, нормальной кухни. Санузел — это ржавая раковина, до которой страшно дотрагиваться. Когда я спросил: "А как же элементарная гигиена? Где принять душ перед работой", — мне ответили: "Можете это делать в больнице". Как в больнице? Становиться в очередь за пациентами?

От такого жилья я отказался. Парень, которому также предложили эти "апартаменты" и с которым мы должны были жить вдвоем в комнате, тоже отказался.

Я снял комнату в частном доме, но оттуда пришлось съехать.



Временно Михаил был вынужден жить в ординаторской.

Решил снова обратиться в администрацию больницы. Но мои проблемы с жильем уже никого не волновали. Мне было заявлено: отказался от общежития — теперь ищи жилье сам. Т.е. администрация больницы никакой помощи в поиске жилья мне не оказывала.

Жил в ординаторской и искал жилье. Но в Березино жилье никто не сдает, даже комнату найти сложно.

Обратился в строительную организацию, объяснил директору свою ситуацию: мол, приехал по распределению в ваш замечательный город, а жить негде. Директор пошел навстречу и выделил мне комнату в общежитии своей организации. Говорить об этой комнате не хочу. Условия в этой общаге почти такие же, как и в той, которую мне предложили сразу по приезде. Контингент не самый лучший. Но дареному коню, как говорится, в зубы не смотрят. В комнате я живу один. И понимаю, что это самое лучшее, что я могу иметь в Березино.

Сейчас администрация меня "успокаивает": мол, те, кто отработал по распределению, такие же крепостные, как я, уезжают, освободится квартира, которую они снимают, и меня, мол, облагодетельствуют — предложат мне комнату в этой квартире.

Проблема с медицинскими кадрами в Березино серьезная. Но как они могут ее решить?! Никто после распределения оставаться не хочет, сейчас уезжают хирург, педиатр, терапевт. Я уеду, как только смогу. Что меня здесь может удержать? Больничная база, которая позволяла бы совершенствоваться в профессии? Нет. Бытовые условия? Нет. Зарплата? Вряд ли. Зарплата интерна — около 2 миллионов рублей. У молодого специалиста будет выше, но не намного. А я сижу на приеме, выполняю работу педиатра. То, что загружают работой, — пошло на пользу, конечно. Но не о такой работе я мечтал.

Я согласен, кадровый вопрос в Березинской ЦРБ решать надо. Но почему за мой счет? Ситуация с медкадрами в Минском районе не лучше. Но меня упорно не хотят отпускать из Березино, не хотят пойти навстречу. Словно я крепостной.



В этом общежитии предлагали жить интерну Михаилу Кадолу (центральный вход).

Пытался добиться, чтобы меня хотя бы после интернатуры отправили ближе к дому, в ЦРБ Минского района. Снова взял гарантийное письмо из Центральной больницы Минского района. Ходил в облздравотдел Минской области. На прием к начальнику Инессе Брониславовне Масло не пустили, общался с ее заместителями, но толку никакого. Они говорят в таком тоне, будто я требую чего-то невероятного. Была надежда на министра здравоохранения Василия Ивановича Жарко. В начале июня записался к нему на прием, меня поставили на очередь. Недавно позвонили из Минздрава и сказали, что в приеме мне отказано, посоветовали решать свой вопрос через отдел кадров министерства.

...Мне всегда нравилась профессия врача, это была моя большая мечта. Но когда начинаешь сталкиваться с реальностью, то понимаешь, почему из медицины бегут врачи...

*Березинский район.*

SOS!

## *Статистика: через 14 лет школьников, обучающихся на белорусском языке, может практически не остаться*

*С каждым годом становится все меньше белорусов, обучающихся на родном языке. При сохранении текущего тренда уже через 14 лет практически не останется школьников, обучающихся на белорусском. Такие данные приводит Белстат в статистическом сборнике "Образование в Республике Беларусь".*

По данным статистического ведомства, чуть менее 0,2% студентов обучаются на белорусском языке, приводятся страшные цифры на *dengi.onliner.by*. Если проследить динамику изменения количества белорусских студентов, обучающихся на родном языке, то можно заметить, что всего за 7 лет оно снизилось в абсолютном выражении в 10,5 раза — с 7,1 тыс. до 683 человек.




*Количество студентов, обучающихся на русском и белорусском языках, человек*




*Доля студентов, обучающихся на русском и белорусском языках, %*

Менее плачевная ситуация сложилась в сфере среднего образования, однако и там она стремительно меняется не в пользу белорусского языка. Кроме очевидной демографической ямы, прослеживаемой на графике, можно отметить и более быстрое снижение доли белорусскоязычных учащихся средних школ. При сохранении тренда уже через 14 лет в Беларуси практически не останется желающих обучаться на родном языке.




*Количество учащихся дневных учреждений общего среднего образования, обучающихся на русском и белорусском языках, человек*




*Доля учащихся дневных учреждений общего среднего образования, обучающихся на русском и белорусском языках, %*

К слову, и обучать белорусскому языку вскоре также может не найтись желающих. За период с 2005/2006 по 2012/2013 учебный год школьных учителей, преподающих белорусский язык и литературу, стало меньше на 2961, или на 25,6%.

АДПАЧЫНАК-2013

# Куды беларусы едуць адпачываць?

***Ліпень у літаральным сэнсе самая гарачая пара для адпачынку. Куды ж беларусы "навастрылі лыжы" ў гэтым годзе?***

Па словах турыстычнага эксперта і галоўнага рэдактара газеты "Туризм и Отдых" **Лілії КОБЗІК**, сёння беларусы ўжо крыху супакоіліся ў плане актыўнасці на турыстычным рынку.

— *А вось у перыяд ранняга браніравання была неверагодная зацікаўленасць*, — распавядае яна. — *Напэўна, гэта выклікана тым, што паступіла вельмі шмат прапаноў. Фірмы спаборнічалі паміж сабой, турысты з энтузіязмам адгукнуліся. Здавалася, такая сітуацыя будзе працягвацца ўсё лета, але... Зараз продажы ідуць вельмі спакойна, нават назіраюцца "горящие" моманты. "Падгараюць" Турцыя, Харватыя, Чарнагорыя... Ёсць пытанні па Грэцыі, таму што яе вельмі шмат. Тым не менш танна з Мінска вы ўсё роўна нікуда не паляціце на адпачынак. У нас гэта ў прынцыпе немагчыма. Можна набыць турпакет з прывабнай цаной з Масквы, Кіева, Львова, Варшавы, Вільнюса... Але не з Мінска. У нас дарагія авіябілеты. Амаль у два разы даражэйшыя, чым у іншых краінах.*

Суразмоўца дадае, што сярод беларусаў сёлета добры попыт і на адпачынак у бліжэйшых суседзяў.

— *Людзі з задавальненнем едуць у краіны Балтыі на сямейныя курорты*, — кажа Лілія Кобзік. — *Таксама карыстаюцца попытам і аўтобусныя круізы па Еўропе.*

А ці папулярны адпачынак у Беларусі?

— *У гэтым плане пазітыўных змяненняў няма*, — адзначае суразмоўца. — *Кардынальна не змяняецца інфраструктура, а санаторыі — гэта некалькі спецыфічны від адпачынку. Мы вось бачылі сітуацыю, калі беларускі санаторый поўнасцю забраніравалі расіяне, і чым гэта скончылася. Усё ж адбывалася на даверы. А дзе тонка, там і рвецца. Няхай бы нашы санаторыі больш актыўна прыглядаліся да беларускіх спажыўцоў. А то расійскім турыстычным фірмам робяць 10 працэнтаў зніжкі, а сваім — 1 працэнт. Да таго ж, наколькі вядома, ёсць негалоснае распараджэнне не размяшчаць беларусаў у гэтых санаторыях. Ды і кошты, мякка кажучы, не прывабныя. Лепш у тую ж Турцыю злятаць...*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БЛІЦ

*«Народная Воля» пацікавілася ў вядомых людзей:*

## *Дзе ў гэтым годзе вы адпачывалі ці будзеце адпачываць?*



**Марына ШКЕРМАНКОВА, бронзавы прызёр Алімпіяды-2012 (цяжкая атлетыка):**

— Абавязкова паеду куды-небудзь адпачыць пасля чэмпіянату свету, які адбудзецца ў кастрычніку. Раней расслабіцца проста няма часу. А куды накіруюся? Магчыма, як і ў мінулым годзе , — у Егіпет.



**Генадзь БУРАЎКІН, паэт:**

— Я ў апошнія гады адпачынак праводжу на лецішчы пад Мінскам — у Крыжоўцы. Тут маё самае дарагое месца сярод лесу, у спакойнай абстаноўцы. У мяне не кааператыў, а звычайная сялянская хата, таму побач не так багата людзей. На лецішчы мне падабаецца і адпачываць, і нават працаваць. А што тычыцца нейкіх замежных тураў, то жывём мы з жонкай на пенсіі, памер якіх выключае паездкі на курорты. Думаю, большасць пенсіянераў таксама не могуць сабе гэтага дазволіць.



**Уладзімір НАВІЦКІ, спартыўны каментатар:**

— Шчыра кажучы, апошнія тры гады я наогул не хадзіў у адпачынак. А калі і здараецца такое шчасце, то адпачываю зімой, калі не трэба каментаваць футбол. Нікуды не езджу, сяджу ў Мінску... Не навучыўся я адпачываць. Апошні раз на адпачынак мы ездзілі разам з жонкай гадоў 7—8 таму — накіраваліся ў аўтобусны тур па Еўропе і сем дзён правялі на моры ў Італіі, у славутым горадзе Сан-Рэма.



**Аляксандр САЛАДУХА, спявак:**

— Пакуль на адпачынак няма часу, я ўвесь у рабоце. Але ці то ў жніўні, ці то ў верасні паляцім сям'ёй у Італію. Я, жонка Наташа і дачка Варварушка. У мінулым годзе адпачывалі ў Турцыі, зімой яшчэ пабывалі на Мальдзівах. Усё было проста шыкоўна!



**Сяргей КАЛЯКІН, лідар партыі "Справядлівы свет":**

— Вось-вось сыходжу на 10 дзён у адпачынак. Астатнія дні выкарыстаю восенню. Зараз паеду на радзіму, на Віцебшчыну. Даўно ўжо там не быў. Побач з домам азёры, буду рыбу вудзіць.



**Андрэй АРАМНАЎ, алімпійскі чэмпіён:**

— Думаеце, з маім заробкам у 1,5 мільёна рублёў можна кудысьці паехаць адпачыць?

ВМЕСТО КОММЕНТАРИЯ

# Помощь от государства — 250 тысяч рублей

История интерна Михаила Кадола — вряд ли единичный случай. Всем известно, что зачастую молодые специалисты приезжают по распределению, отрабатывают положенные 2—3 года и сбегают. Чиновники от медицины не скрывают болезненной статистики: только в первый год после окончания отработки по обязательному распределению уезжают 25—30% молодых врачей.

Причем из райцентров молодые специалисты бегут чаще, чем из деревень. В районных больницах молодым врачам редко предоставляют жилье, а удержать специалистов такими зарплатами невозможно. Уезжают оттуда, где нет контакта с местной властью, администрацией больницы, поскольку во многом от них зависит оплата труда вчерашнего выпускника. Министерство здравоохранения только рекомендует оказывать молодым специалистам материальную помощь, предоставлять им подработку, обеспечивать служебным жильем, а уже местные администрации решают, как помочь. Хотя, если разобраться, а что они могут предложить? Ведь главврачам не разрешают даже самостоятельно распоряжаться заработанными на платных услугах деньгами. Да и есть ли вообще спрос на платные услуги в районной больнице?

Единственная гарантированная поддержка государства — ежемесячные доплаты молодым врачам в размере одной тарифной ставки первого разряда. С 1 апреля 2013 года это 250 тысяч рублей.

К слову, в соседней России решили иначе бороться с проблемой закрепления молодых врачей на периферии. Выпускникам медвузов, уехавшим работать в село на срок не менее 5 лет, выплачиваются "подъемные" в размере 1 миллиона рублей, или около 30 тысяч долларов.

Но Беларусь, как говорится, не Россия. У нас свои порядки.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ЗАПРАШЭННЕ

# Чацвер пад знакам Літвы

*Наступны чацвер стане ў Мінску сапраўдным літоўскім днём. У галерэі "Ў" літоўскія і беларускія паэты будуць чытаць вершы, сярод іх — лепшы сучасны паэт Беларусі **Алесь Разанаў**, які вельмі рэдка выступае на радзіме. Вядучым вечара стане таксама вядомая персона — паэт **Андрэй Хадановіч**.*

А ў літоўскім пасольстве ў Мінску ў той жа дзень пройдзе канцэрт 23-гадовай спявачкі **Эвеліны Шашэнка**. Пра гэта варта сказаць падрабязней. Поспех прыйшоў да Эвеліны ў 2009 годзе, калі яна ўдзельнічала ў тэлевізійным конкурсе для класічных спевакоў "Triumfo Arka". Спецыялісты імгненна звярнулі на яе ўвагу — у тым ліку самы знакаміты дырыжор Літвы **Гінтарас Рынкявічус**, які папрасіў Эвеліну прыняць удзел у некалькіх праектах з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам. Затым пайшлі новыя выступленні: у Польшчы, Германіі, Бельгіі на міжнародных фестывалях (многія з іх адзначаліся ўзнагародамі).

У Мінску Эвеліна выканае песні **Эдзіт Піяф**. Вядома, гэта даволі рызыкоўны крок — другой Эдзіт Піяф больш не будзе. Але менавіта смеласць Эвеліны Шашэнка і інтрыгуе: значыць, маладая літоўская спявачка адчувае ў сабе сілы прымерыць яе геніяльны рэпертуар?

**Алена МАЛОЧКА.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 9 ЛІПЕНЯ 2013 г.

КУЛУАРЫ

# Саннікаў пазнаёміўся з Х'ю Грантам

*Фотаздымак з вядомым брытанскім артыстам экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі змясціў на сваёй старонцы ў адной з папулярных сацыяльных сетак.*

*"Hugh Grant таксама неабыякава ставіцца да нашай сітуацыі. Абсалютна адкрыты і шчыры чалавек"*, — напісаў Андрэй Саннікаў.

Знаёмства Саннікава з адным з самых прыгожых артыстаў свету адбылося на традыцыйнай сустрэчы "Том Стопард збірае сяброў", якую сусветна вядомы драматург ладзіць раз на два гады.



Нагадаем, што Андрэй Саннікаў з'ехаў у Вялікабрытанію ў мінулым годзе і папрасіў там палітычнага прытулку.

*"Том традыцыйна збірае сваіх сяброў у спецыяльна арандаваным садзе ў Чэлсі каля поўдня, а вечарам, у прамежку паміж 8 і 9 гадзінамі, усе спрабуюць разысціся па дамах. Сюды не дапускаюцца прадстаўнікі прэсы; тут няма староннiх — толькі людзі, якія добра ведаюць адзін аднаго шмат гадоў,* — распавядаў два гады таму ў сваім інтэрнэт-дзённіку драматург **Мікалай Халезін**, які ўжо шмат гадоў сябруе са Стопардам. — *Легенды пра гэтыя сустрэчы ходзяць па Лондане, і многія маладыя акцёры, драматургі і кінадзеячы мараць сюды патрапіць. Але, на мой погляд, пакуты гэтыя марныя — пікнік у Стопарда не тое месца, дзе можна рабіць кар'еру. Тут не пачуеш гутарак аб рабоце — альбо жарты і ўспаміны, альбо размовы на адцягненыя тэмы. Тут сустракаюцца сябры, каб правесці паўдня ў камфортнай кампаніі. Так як усе запрошаныя — людзі вядомыя, якія стаміліся ад увагі гледачоў і прэсы, ніякіх фота- ці тэлекамер тут не можа быць апрыёры, пры тым што кожны другі запрошаны — прывабны аб'ект для папарацы".*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

## З АСАБІСТАЙ СПРАВЫ



*Х'ю Грант — брытанскі акцёр. Здымаецца ў асноўным у рамантычных камедыях і меладрамах. Вядомы сваім амплуа сэрцаеда — як на кінаэкране, так і ў жыцці. Найбольш вядомыя фільмы з яго ўдзелам: "Чатыры вяселлі і адно пахаванне", "Розум і пачуцці", "Нотынг Хіл", "Дзённік Брыджыт Джонс", "Рэальнае каханне".*

*У 1995 годзе часопіс Empire змясціў Гранта на 43-е месца ў спісе 100 самых сексуальных зорак.*

СЛЫШАЛИ?

# На Пинщине живут потомки Александра Блока?

*Сенсационные факты сообщила еженедельная газета русских писателей "Литературная Россия".*

В 1917 году простая полесская девушка из деревни Колбы Мария Лемешевская родила сына от классика русской литературы, одного из величайших поэтов России Александра Александровича Блока (1880—1921).

Этот факт в 1980-е годы подтвердили родственники Марии Лемешевской. Несколькими годами ранее в своих воспоминаниях об этом написала подруга поэта Надежда Павлович. Впрочем, этого не скрывал и сам Александр Блок, намекая о простой полесской девушке и отношениях с ней в своих произведениях.

*"Она была простой девушкой, осталась беременной, но я ее потерял. И уже никогда не смогу найти. Может быть, там растет мой сын, но он меня не знает, и я его никогда не узнаю..."*, — приводит сайт media-polesye.by цитаты из книги "Воспоминания об Александре Блоке". — *Классик был прав. Сына он так и не увидел. Мария назвала новорожденного Федором.*

*В 1916—1917 годах поэт нес военную службу на линии фронта около деревни Колбы. Именно в этом полесском местечке появился первый в СССР музей Александра Блока, и местные жители с огромным уважением относятся к классику русской литературы".*

КУЛЬТУРНАЯ АНАЛІТЫКА

# Пяць тэндэнцый мінскага тэатральнага сезона

*Сталічны сезон 2012—2013 няўхільна набліжаецца да завяршэння. Асобныя калектывы ўжо сышлі на летнія вакацыі, у іншых дайгрываюцца апошнія спектаклі, а акцёры збіраюць валізкі для адпачынку. Час падвесці вынікі сезона, якія сведчаць пра пяць тэндэнцый.*



## Малая колькасць прэм'ер

Як вы лічыце, колькі прэм'ер мусіць паказаць тэатр за год? Зразумела, у кожным калектыве свая сітуацыя. Напрыклад, у наступным сезоне ў міланскім "Ла Скала" будзе пастаўлена 10 новых опер, маскоўскі Вялікі тэатр запланаваў 7 прэм'ер. Вы лічыце, гэта прыхамаць багацеяў? Але нават Рускі тэатр Эстоніі, бадай, не самы багаты калектыў, у адным з мінулых сезонаў прапанаваў гледачам 5 новых спектакляў (у асабістай размове з аўтарам гэтых радкоў адзін з акцёраў сцвярджаў, што ідэальная лічба — 7—8 новых пастановак). На маю думку, 5 прэм'ер за сезон — гэта мінімальны паказчык, які дазваляе і трымаць у творчым тонусе трупу, і займаць у пастаноўках большасць акцёраў, і ўвогуле знаходзіцца ў цэнтры, а не на перыферыі культурнага жыцця.

Узнікае пытанне: якім жа чынам фарміруецца бюджэт тэатраў, якія могуць дазволіць сабе столькі пастановак? Пяць гадоў таму, калі я як турыст завітаў у Аўстрыю, я трапіў на экскурсію ў Венскую оперу. Паводле слоў супрацоўніцы, якая вяла экскурсію, адну трэць агульнай сумы складае дапамога спонсараў, другую — грошы, атрыманыя ад дзяржавы, і трэцюю — тое, што зарабляе тэатр. Пазней даводзілася сустракаць звесткі пра такія ж суадносіны ў працы іншых заходніх калектываў.

У Беларусі, дзе такая мадэль не працуе, ільвіную долю грашовых паступленняў забяспечвае дзяржава. Не сакрэт, што візітнай карткай краіны з'яўляецца **Нацыянальны тэатр оперы і балета**, які атрымлівае належнае па айчынных мерках фінансаванне. Вынік адпаведны — 8 прэм'ер за мінулы сезон (з іх дзве ў новай рэдакцыі)! Усе астатнія тэатры паказалі чатыры прэм'еры і менш (асобныя калектывы — па адной ці дзве). Зразумела, у кожнага тэатра былі ўласныя суб'ектыўныя прычыны для такога выніку: у **Тэатры юнага гледача** і ў **Маладзёжным** працягваецца капітальны рамонт будынка, у **Купалаўскім** ён толькі завяршыўся і г.д. Але галоўная прычына не надта вялікай актыўнасці — у памеры дзяржаўнай падтрымкі. Калі яна сціплая — вынік адпаведны.

## Ігнараванне фестывальнага фармату

Большасць спектакляў, арыентаваных на фестывалі, заўжды сустракае супраціўленне кансерватыўнай часткі глядацкай аўдыторыі. *"Дзеля чаго ставіць у тэатры пастаноўкі для эстэтаў?* — спытае звычайны наведвальнік. — *Можна паглядзець добрую камедыю, слязлівую меладраму або ўбачыць класіку. А тут на сцэне адбываецца невядома што!"* Але навошта тады дзяўчыне вечаровая сукенка, калі дома ёсць тры халаты на выбар? Кожная тэатральная "вопратка" да месца ў пэўны час і ў пэўнай сітуацыі. Менавіта па фестывальнай прадукцыі (а зусім не па бягучым рэпертуары) складваецца ўяўленне пра ўзровень развіцця тэатра ў пэўнай краіне ці горадзе.

Адна з галоўных праблем сталічных тэатраў у тым, што большасці з іх проста няма чаго паказваць за мяжой. Пры гэтым дамовімся, што не будзем усур'ёз разглядаць перамогі на фестывалях ў асобных правінцыйных расійскіх і ўкраінскіх гарадах, дзе любы прывезены спектакль успрымаецца як апошняе слова ў мастацтве. Адзіным калектывам, які стабільна выпускае прадукцыю еўрапейскага фестывальнага ўзроўню, з'яўляецца **Беларускі дзяржаўны тэатр лялек**. За апошні сезон яго спектаклі "Адвечная песня", "Драй швэстэрн", "Чайка. Вопыт прачытання", "Чароўныя падарункі" паказваліся на фестывалях у Бельгіі, Расіі, Украіне, Польшчы. Тут можна казаць аб прадуманай стратэгіі. А вось у іншых тэатрах фестывальныя спектаклі — хутчэй выключэнне, чым правіла (напрыклад, у рэпертуары **Купалаўскага** да іх належаць хіба толькі "Офіс" і "Вяселле").

Нават калі максімальна пашырыць крытэрыі для патэнцыйнага фестывальнага спектакля, да гэтага тыпу можна аднесці лічаныя пастаноўкі гэтага сезона. Сярод дзяржаўных калектываў — "Дзяды" і "Ладдзя роспачы" ў Лялечным, "Дажыць да прэм'еры" і, магчыма, "Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат" у РТБД, "Метамарфозы" і, магчыма, "Зала чакання" ў Оперным. З недзяржаўных калектываў — "Латэнтныя мужчыны" **"KorniagTHEATRE"** (як, бадай, і большасць пастановак Яўгена Карняга), а таксама "Дзяды" **"Тэатра Ч"** (фестывальнае жыццё апошняй пастаноўкі ўжо пачалося). Хтосьці павялічыць ці зменшыць гэты пералік на адну ці дзве назвы, але агульны вынік не зменіцца. Прадукцыя мінскіх тэатраў усё ж разлічана на вырашэнне касавага пытання, а значыць — на ўнутранага карыстальніка.



Наталля Халадовіч і Максім Брагінец у спектаклі "Раскіданае гняздо".

## З'яўленне новых калектываў

У двухмільённым Мінску працуе каля двух дзясяткаў тэатраў. Амаль столькі ж калектываў знаходзіцца ў польскім Любліне, дзе пражывае каля 350 тысяч чалавек (у шэсць разоў меней). Зрэшты, калісьці сітуацыя была іншай. Напрыканцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў у беларускай сталіцы ўзнікла некалькі дзясяткаў тэатраў-студый. Але шэраг фактараў (перш за ўсё фінансавы) паўплывалі на тое, што амаль усе яны спынілі сваё існаванне (ацалеў толькі **"Дзе-Я?",** які пераўтварыўся ў **Новы драматычны тэатр**).

Прыведзены факт — красамоўнае сведчанне таго, што ў Мінску не хапае тэатраў. Менавіта таму восенню і зімой (вясной і летам большасць гледачоў аддае перавагу фазэндам і лецішчам) амаль на ўсіх спектаклях (ад самых наватарскіх да самых прымітыўных) назіраецца аншлаг.

У гэтым сезоне пра сваю дзейнасць заявілі адразу некалькі калектываў. Гэта **"Тэатр Ч",** які прадставіў "Дзяды", тэатр **"Галерэя",** які паказаў некалькі музычных праектаў, канцэртаў-спектакляў, а таксама прэзентаваў оперу С.Манюшкі "Verbum Nobile", нарэшце, "Тэрыторыя мюзікла", у межах дзейнасці якога гледачы ўбачылі мюзікл-дэтэктыў для дзяцей і дарослых "Яхім-ліс". Іх яднае адсутнасць як уласнага памяшкання (выступленні праходзяць на арандаваных пляцоўках), так і трупы (ролі ў спектаклях выконваць запрошаныя акцёры). Істотна, што ўсе тры калектывы імкнуцца запоўніць свабодныя нішы ў мінскай тэатральнай прасторы. Праект **"Тэатр Ч"** увасабляе нацыянальную ідэю праз успрыманне літоўскай рэжысуры, "Галерэя" прыцягвае аматараў камернай оперы. Што тычыцца **"Тэрыторыі мюзікла",** дык у Мінску даўно існуе патрэба мець асобныя тэатры мюзікла і аперэты, якім відавочна цесна пад адным дахам Музычнага.

Далёкія перспектывы тройкі гэтых дэбютантаў пакуль незразумелыя. Ці надоўга хопіць імпэту ў арганізатараў і, што яшчэ больш істотна, грошай у спонсараў? Але ўвогуле такая тэндэнцыя не можа не выклікаць стрыманы аптымізм.

## Замежны «сэканд-хэнд»

Можна доўга спрачацца, ці з'яўляецца Беларусь цэнтрам Еўропы, а Мінск — сапраўдным еўрапейскім горадам. На жаль, у дачыненні да тэатра казаць пра такое дакладна зарана. Бо статус еўрапейскага горада прадугледжвае максімальную адкрытасць, насычанае культурнае жыццё і знаёмства з апошнімі тэатральнымі навінкамі калі не ўсяго кантынента, дык хаця б рэгіёна.

Спектаклі, якія прывозілі ў Мінск у гэтым сезоне, можна падзяліць на дзве катэгорыі. Першая — прадукцыя калектываў з самой Беларусі (большасць спектакляў, паказаных падчас ІІ Нацыянальнай тэатральнай прэміі), Расіі (гастролі драматычных тэатраў з Тулы і Тамбова) і Еўропы (Азербайджанскі тэатр оперы і балета, музычныя тэатры з Клайпеды і Каўнаса), якія нельга аднесці да бясспрэчных лідараў тэатральнага працэсу. Іх пастаноўкі могуць быць больш ці менш удалымі, але нечага новага ў інтэрпрэтацыі драматычных калізій, прынцыпах рэжысуры, тэатральнай мове яны не адкрываюць.

Другі кірунак — паказ славутых у мінулым спектакляў або выступленне асоб з імёнамі (праект "Рускія сезоны ХХІ стагоддзя", спектаклі Санкт-Пецярбургскага тэатра імя Леаніда Якабсона, юбілейны вечар Андрыса Ліепы, сольны канцэрт Фаруха Рузіматава). У гэтых выступленнях відавочная спроба зарабіць немаленькія грошы на сапраўды зорных выканаўцах, чый росквіт прыйшоўся на мінулыя гады. А таксама прадаць брэнды, якія ў рэальнасці больш нагадваюць запыленыя музейныя экспанаты.

Ці існавалі ў мінулым сезоне выключэнні? Перш за ўсё ІІ Міжнародны форум тэатральнага мастацтва "ТэАРТ", падчас якога мінчане ўбачылі спектаклі італьянца Рамэа Кастэлучы, паляка Крысціяна Люпы, літоўцаў Аскараса Каршуноваса і Міндаўгаса Карбаўскіса. Таксама на ІІІ Мінскім міжнародным калядным оперным форуме Сафійскі тэатра оперы і балета прадставіў вагнераўскага "Зігфрыда" (другую частку тэтралогіі "Кола нібелунга"). Падчас гастроляў Барыс Эйфман паказаў прэм'еру свайго балета "Браты Карамазавы", а Раду Паклітару — не новы, але ад гэтага не менш цікавы "Дождж".

Але агульны вынік не аптымістычны: на еўрапейскай карце Мінск успрымаецца як тэатральная правінцыя.

## Ажыўленне РТБД — і агульны «застой»

Што такое "застой"? Гэта не толькі час стабільнасці і ўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Гэта яшчэ і перыяд, калі ведаеш: што б ты ні зрабіў, сітуацыю змяніць немагчыма. Калі акрэсліць неафіцыйную іерархію сталічных тэатраў, яе можна ўявіць у выглядзе піраміды. Прычым за апошнія гады ў ёй адбыліся мінімальныя змены, якія сведчаць пра кансерватыўнасць тэндэнцыі.

На самым версе традыцыйна знаходзіцца абсалютны лідар — **Дзяржаўны тэатр лялек,** які ставіў перад сабой сур'ёзныя мастацкія задачы, паспяхова іх вырашаў і прадстаўляў краіну ў Еўропе. На другім размясціўся **Нацыянальны тэатр оперы і балета**. Быў перыяд, калі яны ішлі поруч. Але сітуацыя ў апошнім калектыве часам выглядае як спалучэнне неспалучальнага. Калі казаць пра балет, дык гэта наватарства на новай сцэне і празмерны традыцыяналізм, калі не архаіка, на вялікай. Сітуацыя ў оперы больш стабільная і адначасова прадказальная. З аднаго боку, падаецца, што тэатр узяў пэўную планку, ніжэй за якую не апусціцца. З другога — ідучы на спектакль, загадзя ведаеш, што часцей на прэм'еры пакажуць пастаноўку рускай ці італьянскай класікі, вырашаную рэжысёрам Міхаілам Панджавідзэ ў "вялікім" стылі.

А вось за трэцяе месца ў іерархіі звыкла ідзе барацьба паміж калектывамі, якія ў цэлым не жадаюць адмаўляцца ад традыцыі, але бяруць іншым — арыгінальнымі назвамі ў рэпертуары, запрашэннем цікавых рэжысёраў і парасткамі наватарства. Гэта аздараўляе тэатральны механізм, але кардынальна не змяняе сістэму. На маю думку, у мінулым сезоне ў змаганні паміж **РТБД і Музычным** перамог першы калектыў. Калі заплюшчыць вочы на няўдалыя "Тры Жызэлі", у плюсе — наватарскае прачытанне сучаснай п'есы ("Дажыць да прэм'еры"), небанальная інтэрпрэтацыя класікі ("Раскіданае гняздо") і своеасаблівая правакацыя ("Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат"). Калі да ўзроўню **Лялечнага і Опернага** можна прызвычаіцца, дык ажыўленне **РТБД** — адзін з прыемных сюрпрызаў. А вось што тычыцца астатніх тэатраў (акрамя названай чацвёркі), перафразуем Рэмарка: *"На тэатральным фронце без змен".* І без асаблівых шанцаў на тое, што ў найбліжэйшы час штосьці зменіцца...

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**
*budzma.org*

АМБИЦИИ

# Бизнесмен — почетная профессия

*Такое мнение высказал на церемонии награждения лауреатов конкурса "Человек дела" главный редактор журнала "Дело" **Виктор Жук**.*

По мнению Жука, в последние годы бизнес-климат в стране существенно улучшился: *"Если раньше, когда мы начинали конкурс, занятие бизнесом считалось сомнительным делом, то сегодня это очень почетная в нашем обществе профессия. Общаясь с нашей молодежью, я вижу, что многие хотят стать бизнесменами".*

## ПОИМЕННО

***Традиционно лауреатами конкурса стали 12 человек.***

В номинации "За существенный вклад в развитие финансового рынка страны" лауреатом стал председатель правления ОАО "БПС-Сбербанк" **Василий Матюшевский**.



Виталий Вовк.

В номинации "За повышение престижа марки "Сделано в Беларуси" — генеральный директор ОАО "Минский завод колесных тягачей" **Виталий Вовк**.

"За поддержание высокого стандарта зарубежной марки на отечественном рынке" наградили гендиректора ООО "Бел Хуавей Технолоджис" **Чжана Дунляна.**

"За весомый вклад в развитие внешнеэкономических связей Беларуси" — гендиректора ОАО "Интеграл" **Виталия Солодуху**.

"За стабильную и эффективную работу на белорусском и зарубежном рынках — председателя правления СП "Белита" ООО, гендиректора ЗАО "Витекс" **Виктора Терещенко.**

"За активное привлечение и эффективное использование зарубежных инвестиций" — директора ИООО "Логистический центр "Прилесье" **Камбиза Бешкардана.**



Андрей Никоненок.



Виктор Терещенко.

"За создание предприятия, подающего пример перехода на инновационный путь развития", — директора НП ЧУП "Адани" **Владимира Линева**.

Победителем в номинации "За личный вклад в достижение мирового качества выпускаемой продукции" стал генеральный директор СООО "ЛЛК-Нафтан" **Петр Катульский.**

"За высокое качество бизнес-услуг" оценили гендиректора РУП "Белтелеком" **Сергея Попкова.**

В номинации "За успешное применение новых технологий и методов управления" первым стал учредитель ООО "Топ Тур" **Иван Чура.**

"За безукоризненое поведение в непростых рыночных ситуациях" отметили гендиректора РУПП "Гранит" **Эдуарда Гаврилковича.**

"За самую оригинальную бизнес-идею, реализованную в Беларуси", наградили директора СООО "Гольф-клуб" **Андрея Никоненка**.

**Вера ВИР.**

ЗА КУЛИСАМИ

# У Михаила Финберга в Витебске есть собственный таксист

*В этом году руководитель национального концертного оркестра Беларуси будет ездить на "Пежо". А вот российские звезды, которые приедут на "Славянский базар в Витебске", выбирают авто покруче: для них приготовлены четыре пятисотых "Мерседеса". Их на безвозмездной основе выделяет предприятие "Белтрансспецавто" Администрации президента.*

Кстати, тех, кто работает в службе размещения гостей фестиваля, уже не удивляют райдеры артистов.

— *С условиями проживания артисты знакомятся заранее на наших сайтах, мы постоянно ведем переговоры с менеджерами, так что никаких неожиданностей для их подопечных не будет,* — уверяет руководитель службы размещения **Ирина Шевякова-Богорад**. — *А вот для нас начинаются сложности, когда в делегации оказывается "немного" больше заявленного количества людей. Но мы понимаем: некоторым звездам очень хочется показать Витебск и наш неповторимый фестиваль своим родственникам, детям.*

"Гостей Витебска ожидают 50 автомобилей, приготовленных для них транспортной службой фестиваля, — *открывает секреты логистики сайт фестиваля.* — Это машины "S"-класса, есть и автобусы, микроавтобусы и легковые автомашины бизнес-класса. Четыре пятисотых "Мерседеса" вот уже третий год подряд на безвозмездной основе выделяет предприятие "Белтрансспецавто" от Администрации президента Республики Беларусь. Этот транспорт высшего класса ожидает звезд, которые приедут на свои сольные концерты: **Елену Ваенгу, Александра Малинина, Кристину Орбакайте** и итальянца **Аль Бано**.



*Лариса Долина будет ездить на "Мерседесе", а Михаил Финберг - на "Пежо".*

А вот витебский таксист **Константин Беляев** из года в год привозит из Минска и доставляет обратно домой своего постоянного фестивального клиента — маэстро **Михаила Финберга**. За это время Константин уже поменял свою "Волгу" на "Пежо", салон в котором обтянул белой кожей, но Михаил Яковлевич неизменно заказывает только Беляева, уважая водителя за пунктуальность, аккуратность и вежливость.

Среди водителей есть и женщина — **Елена Козловская**, в этом году она на своем "BMV-316" работает в фестивальной службе организации питания. Кстати, гостям фестиваля предложат множество национальных белорусских блюд и другой вкусной еды".

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

СКАНДАЛ

# Кресло за пять тысяч долларов

*Не так давно по интернету разлетелись слова начальника управления Комитета госконтроля Веры Мацулевич, которая рассказала: в Купаловский театр закупили мебель "индивидуального изготовления" от неизвестных производителей, которая обошлась бюджету в 3,6 миллиарда рублей! За кресло для руководителя заплатили 41 миллион рублей, а за тумбочку для секретаря размером 40 на 90 сантиметров — 58 миллионов.*

*Кто выбирал такую эксклюзивную мебель для театра?*

*Ответ на этот вопрос попыталась найти "Народная Воля".*




**Скандала из-за кресел, которые стоят в зрительном зале, не возникло.**

Как выяснилось, администрация Купаловского театра к закупке мебели имеет весьма далекое отношение, этими вопросами занимается Объединенная дирекция строящихся объектов Министерства культуры.

Директор ОАО "Объединенная дирекция строящихся объектов" Министерства культуры **Павел Улащенко** любезно согласился дать комментарий "Народной Воле".

— Я все объясню, — *сразу сказал Павел Александрович, выслушав вопрос.* — Был проведен тендер на закупку мебели для отдельных помещений Купаловского театра. Тендер выиграла одна фирма. Тендер, кстати, был открытым — в нем мог принимать участие любой желающий, так что, извините, никакого криминала здесь нет. То, что Комитет госконтроля, скажем так, хочет выдать желаемое за действительное, — это просто некрасиво...

**— На запрос с названием вашей организации интернет выдает только скандальную информацию об уголовных делах: то одного директора посадили, то в отношении другого дело завели. Можете объяснить, откуда к вам столько претензий у правоохранительных органов?**

— Как сказал Конфуций, камни бросают только в плодоносящее дерево...

**— Красивая цитата, но... Ваши предшественники из-за "культурных" строек некоторое время провели в следственном изоляторе. Вы сегодня комфортно себя чувствуете? На работу с улыбкой приходите?**

— Вы знаете, когда в тебя бросают грязь, очень трудно отмыться... Скажу так: то, что мы делаем, можно увидеть и потрогать руками. А вся эта возня вокруг театра — это нехорошо... Еще раз повторю: был открытый тендер, в котором мог участвовать любой. Назову только одну фирму, которая его проиграла, — "Бобруйскмебель". Это мощное предприятие, но оно проиграло другой белорусской фирме. Все делалось на основании тендера и без криминала...

***

*П.Улащенко так и не сказал, как за кресло для директора театра заплатили 41 миллион рублей, а за тумбочку для секретаря — 58 миллионов. Что ж это за тендер, когда обычное кресло стало золотым? Надеемся, конкретный ответ дадут компетентные органы.*

## ЗВОНОК В ГОСКОНТРОЛЬ

"Народная Воля" хотела поподробнее узнать о ситуации с закупкой мебели в Купаловский театр и задать несколько вопросов начальнику управления Комитета госконтроля **Вере Мацулевич**. Однако в пресс-службе КГК сообщили, что это невозможно: ***"Материалы по этому факту уже переданы в правоохранительные органы. В интересах следствия название фирмы, производившей мебель для Купаловского театра, а также другие подробности дела, не разглашаются".***

## РЕЗОНАНС

***Скандалы, в которых фигурировало ОАО "Объединенная дирекция строящихся объектов" Министерства культуры.***

В феврале 2010 года Департамент финансовых расследований КГК возбудил уголовное дело в отношении экс-гендиректора Объединенной дирекции строящихся объектов **Николая Юркевича**.

*"Директор ОАО "Объединенная дирекция строящихся объектов" Министерства культуры "с января 2006 года по май 2009 года при осуществлении работ по реставрации и реконструкции здания Большого театра оперы и балета необоснованно, без документального подтверждения получил из бюджета компенсацию для восполнения расходов, понесенных при поставке на объект оборудования в размере 5,8 миллиарда рублей" (это более 1,8 миллиона долларов по курсу того времени",* — сообщил "Ежедневник". Кстати, чем закончилось дело — до сих пор не известно.

В ноябре 2012 года управлением Следственного комитета по Минску было возбуждено уголовное дело в отношении другого директора ОАО "Объединенная дирекция строящихся объектов" **Александра Трифонова**. Его обвинили в злоупотреблении властью.

*"По данным правоохранительных органов, подозреваемый якобы с октября 2010 года по май 2011 года отдавал указания подчиненным сотрудникам о неправомерном подписании фиктивных актов сдачи-приемки выполненных строительно-монтажных работ, якобы произведенных ЧСУП "Милдис" при строительстве объекта "Спортивно-культурный центр Белорусского государственного университета культуры и искусств по ул.Рабкоровской, 17 в г.Минске,* — сообщал ej.by. — *Кроме того, директор якобы также отдавал незаконные указания подчиненным о перечислении указанному предприятию необоснованных авансов, когда даже предыдущие авансы отработаны не были".*

## КСТАТИ

## *За билет в театр — 600 тысяч белорусских рублей*

### *Найдутся ли в Беларуси желающие отдать такие деньги за поход в Купаловский театр?*

Примерно столько будет стоить билет, если театр переведут на самоокупаемость.

Напомним, что в конце марта А.Лукашенко поручил внести предложения, чтобы вывести деятельность Национального академического театра имени Янки Купалы на самоокупаемость.

*"Сегодня это не самоокупаемая организация. Может быть, давайте дадим им возможность заработать, освободим от налогов и посмотрим, что получится",* — предложил тогда Лукашенко министру культуры.

Многие авторитетные эксперты, проработавшие в сфере культуры не один год, сразу заявили: даже в развитых странах театры не в состоянии выживать за счет собственных средств.

"Народная Воля" поинтересовалась, что думает об этом министр культуры **Борис Светлов** *(на фото).*



*— Чтобы выйти на самоокупаемость при имеющемся количестве мест в зале, театр должен продавать билеты по 600 тысяч белорусских рублей* (сегодня билет в театр стоит от 40.000 до 150.000), — ответил министр. — *Но при таком повышении цен зрители просто перестанут его посещать.*

*С 2014 года театр планирует реализовать комплекс мероприятий по увеличению собственных доходов, что позволит снизить удельный вес бюджетного финансирования с 79% в 2012 году до 65% в 2016 году.*

*Отмечу, что во всем мире ведущие репертуарные театры частично финансируются из государственного бюджета. В Германии, например, государственное финансирование театров составляет от 33% до 80%. Ведущий театральный коллектив Франции драматический театр "Комеди Франсез" субсидируется государством на 80%. В Украине государство выделяет стационарным репертуарным театрам 70—80% бюджетных средств от общих расходов. В Молдове театры национального значения получают от государства дотации в размере 80%.*

*Купаловский театр, как и другие организации культуры, с 2011 года пользуется льготами по НДС, налогу на прибыль, земельному налогу, налогу на недвижимость. Однако эти льготы составляют весьма незначительную сумму (например, в 2011 году — всего 708,6 млн рублей) и не смогут компенсировать потерю бюджетного финансирования.*

**Марина КОКТЫШ.**

ШАШКІ

## Эпізоды з чэмпіянату Еўропы

Двойчы чэмпіён Беларусі Яўген Кандрачэнка з Гомеля з'яўляецца пастаянным чытачом "Народнай Волі". У ёй яму спадабаюцца матэрыялы на розныя тэмы, а таксама рубрыка "Шашкі". Нядаўна ў першынстве Еўропы ён заваяваў бронзавы медаль і выканаў норму міжнароднага гросмайстра. Прызёр даслаў у рэдакцыю павучальныя эпізоды з партый гэтага прэстыжнага чэмпіянату, з якімі варта пазнаёміцца:



1 (гл. дыяграму). **Белыя**: a3, a5, b4, c3, d2, e1, g3, h2, h4 (9).

**Чорныя**: a7, b6, c7, d8, e5, f4, f6, g7, h6 (9).

Аналіз В.Ягорава: **1.de3!!** 2. gf4 3. h:f4. Новая рэдакцыя ідэі Бойка-Юшкевіча — лішняя фігура на пераддамачным полі пры сваім ходзе не дае чорным нават нічыёй! Пераканайцеся ў гэтым самастойна.

2 **Белыя** (Я.Кандрачэнка): a1, a3, b2, b4, e1, e3, f2, f4, g1, g3 (10).

**Чорныя** (В.Ягораў): a7, b6, c7, d6, d8, e5, e7, f6, f8, h6 (10).

Урывак з галоўнай праграмы: 1...fg5? 2.bc5 b:d4 3.e:c5 g:e3 4.f:f6 e:g5 5.c:e7 d:f6 6.bc3 =.

Мацней жа 1...bc5!

Цяпер, як указаў С.Белашэеў, нельга 2.bc3? cb6! (у адным з бліцаў партыя В.Ягорава працягвалася 2...fg5? 3.gh4 e:g3 4.h:f6 e:g5 5.f:f6 fe7 6.fg7! h:f8 7.ef4! ef6 8.ab2 cb6 9.ba5 fe5 10.a:c7 d:b6 11.cb4! e:g3 12.ba5x ) 3.ba5 dc7!! 4.ed2 cb4! 5.a:c5 b:b2 6.a:c3 fg5 7.gh4 e:e1 8.h:b6 a:c5 9.cb4 c:a3 10.dc3 e:b4 11.a:c3 hg5x. Але сумесны аналіз паказаў нічыю: 1...bc5! 2.ba5! cb6 3.a:c7 d:b6 4.gh2 ba5 5.gh4 e:g3 6.h:f4 fe5 7.fg3 ed4! (7...ef6? 8. bc3x) 8.ed2 d:f2 9.g:e1 ef6 10.dc3! (Толькі не 10.ef2? hg5! 11.f:h6 fg7 12.h:f8 fg513.h:f6 de5!x ) 10...ab6! (Прасцей параўнаць сілы пасля 10...fe7 11.cb4 a:c3 12.b:b6 a:c5 13.ab2 fe5 14.bc3 e:g3 15.h:f2 de5 16.ed2 =. Узнікла пазіцыя Я.Кандрачэнкі 1999 года з іншага дэбюту) 11.ef2 fe5 12.fe3 e:g3 13.h:f2 fe7! 14.fg3! (14.ef4? ef6 15.fg3 fg5x; 14.cd4? ab4! 15.ef4 cg1 16.aa7 gb6!x) 14...ef6 15.cd4! (15. ef4? fg5 16.cd4 c:e3 17.f:d2 gh4!x; 15.gh4? hg5 16.ef4 ge3 17.cb4 ac3 18.bf2 fg5 19.hf6 de5x) 15...hg5!! 16.bc3! ( 16. gf4? ab4! 17.fh6 bc3!x) 16...de5 17.ef4 c:e3 (17...g:e3 18.d:f2 fg5 19.fe3 gh4 20.cd4! e:c3 21. gf4 =) 18.f:h6 bc5 19.ab2 (вось яно што!) і прыходзіцца 19...ed2 20. c:e1 fg5=.

## Рашаем разам

**"Новы раздзел"**: **№1** (М.Грушэўскі) — h6, h6 (g3) g7 (d2, e1) cd4x і **№3** (А.Кагоцька) — **1**.b8 (a:c7) h4, f2 (f4A) g3, a7, e1, f2 (g3) h4 (d4B) g5, c1+. B (f4) f2+. A(e5) c1 (f4) h6, e3, a7+.

"Чэмпіянат Пінска-6 (2012) быў не першым па дамачных праблемах, — паведамляе чэмпіён свету па шашачнай кампазіцыі Пётр Шклудаў з Наваполацка. — Раней такое спаборніцтва правёў Шасцірыкаў (Расія) і, калі не памыляюся, Федэрацыя шашак Беларусі ў Рэспубліканскім конкурсе-20".

**Мікалай ГЛАДКІ.**

НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ



*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

# Дбаючы пра сваю літаратуру і мову

Нядаўна мне ўпершыню давялося быць удзельнікам надзвычай цікавага мерапрыемства, якое праходзіла ў старажытным Кракаве. Называлася гэтае мерапрыемства Сусветным кангрэсам перакладчыкаў польскай літаратуры і ладзілася ўжо трэці раз (першы такі кангрэс адбыўся ў 2005 годзе). Гэтым разам на Кангрэс, які традыцыйна арганізоўвае кракаўскі Інстытут кнігі, сабралася 250 з каптуром перакладчыкаў польскай літаратуры на больш як паўсотню іншых моў свету. З Беларусі на Кангрэс былі запрошаны **Андрэй Хадановіч, Анатоль Бутэвіч, Марына Шода, Серж Мінскевіч, Марына Казлоўская, Валер Булгакаў**, аўтар гэтых радкоў...

Як і любая салідная імпрэза, прысвечаная Яе вялікасці літаратуры, гэтая вызначалася вялікай колькасцю лекцый, сустрэч з літаратарамі (сярод якіх былі, паміж іншага, жывыя класікі польскай літаратуры **Адам Загаеўскі, Рышард Крыніцкі, Эва Ліпска, Веслаў Мыслiўскі**), з мова- і літаратуразнаўцамі, самымі вядомымі польскімі выдаўцамі, спецыялістамі ў галіне кніжнай рэкламы і кнігагандлю. Першае пасяджэнне кангрэса адбылося ў знакамітай зале "Калегіюм маюс" Ягелонскага ўніверсітэта — зале, якая, магчыма, памятае крокі першага вядомага ў свеце беларускага перакладчыка — Францішка Скарыны. Далейшыя лекцыі, майстар-класы, сустрэчы праходзілі ў гістарычным цэнтры Кракава побач са Старым рынкам, месцам знакамітай прысягі Тадэвуша Касцюшкі, а ў заключны дзень удзельнікі кангрэса мелі магчымасць працаваць у памяшканнях заснаванага Анджэем Вайдам Цэнтра японскай культуры ў Кракаве, што размешчаны акурат насупраць Вавеля, старадаўняй сядзібы польскіх і нашых каралёў.

Беларускія перакладчыкі гэтым разам прыехалі ў Кракаў, маючы досыць салідны даробак, да якога, зрэшты, спрычыніліся не толькі тыя, хто ўвайшоў у сёлетнюю беларускую дэлегацыю. Так, толькі за апошнія 5—7 гадоў у перакладзе на беларускую мову з'явіліся асобныя выданні шмат якіх знакавых твораў класічнай і сучаснай польскай літаратуры, што належаць пяру Гамбровіча і Шульца, Галчыньскага і Корчака, Івашкевіча і Лема, Мілаша і Герберта, Твардоўскага і Ружэвіча, Капусьцiньскага і Гюле, Такарчук і Стасюка... Сёлета па-беларуску выйшаў адзін з самых знакамітых раманаў у гісторыі польскай літаратуры — "Лялька" **Баляслава Пруса**, а непасрэдна на кангрэс у Кракаў перакладчык **Андрэй Хадановіч** прывёз (і пры нагодзе сустрэчы падараваў асабіста прысутнаму аўтару) толькі што забраны з мінскай друкарні томік выбраных вершаў **Рышарда Крыніцкага**. Не магу не зазначыць тут, што амаль усе згаданыя вышэй працы беларускіх перакладчыкаў выйшлі з друку ў недзяржаўных беларускіх выдавецтвах.

Падчас кангрэса адбылося чарговае ўручэнне прэміі "Транс-Атлантык" (у суме 10 тысяч еўра) за актыўную працу ў галіне перакладу польскай літаратуры на іншыя мовы свету. Гэтым разам лаўрэатам прэміі стаў нідэрландскі перакладчык **Карл Лесман**. На цырымоніі ўзнагароджання выступіў міністр культуры Польшчы **Богдан Здраеўскі**, які паабяцаў, што сёлета польская дзяржава ў дадатак да ранейшых некалькіх мільёнаў злотых выдзеліць яшчэ паўмільёна на падтрымку працы перакладчыкаў з польскай мовы ў розных краінах свету. Так нашы заходнія суседзі дбаюць пра сваю літаратуру і мову.

Было прыемна падчас кангрэса пачуць галасы знакамітых украінцаў — **Дзмітра Паўлычкі, Рамана Лубкіўскага**... Даўнія сябры і перакладчыкі беларускай літаратуры цікавіліся, як маюцца-пачуваюцца **Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін,** прасілі пераказаць ім словы ўдзячнасці і падтрымкі, што я з прыемнасцю і раблю тут, на старонках "Народнай Волі".

...Расказваю ўсё гэта і пры гэтым неяк вельмі слаба ўяўляю, каб дзяржава, якая называе сябе беларускай, рэгулярна склікала хоць нешта падобнае на кангрэсы перакладчыкаў беларускай літаратуры, запрашала б туды вядомых літаратараў з усяго свету, укладала б у пераклад твораў беларускай літаратуры на іншыя мовы хоць бы дзясятую частку тых грошай, што Польшча ўкладае ў прапаганду за мяжою сваёй літаратуры. Нехта скажа: а як жа, напрыклад, заўсёдны трымальнік высокіх пасад **Мікалай Чаргінец,** чый твор "Сыны" нядаўна выйшаў па-англійску? Не буду тут казаць пра вартасці і якасць самога твора, прыналежнасць яго да беларускай культуры — заўважу толькі, што выйшла кніга ў беларускім выдавецтве, а пераклад зрабіў **Міхаіл Галдзянкоў**, які... мякка кажучы, не належыць да носьбітаў англійскай мовы і вядомы хутчэй напісаннем папулярных курсаў англійскай мовы "для чайнікаў". Затое грошы на выданне несмяротнага опуса Чаргінца знайшліся. І знайшліся яны, калі не памыляюся, у дзяржавы.

Знаходзіць гэтая дзяржава грошы і на пабудову розных "адметных" будынкаў кшталту Дома хакея, Дома веславання, шматлікіх лядовых палацаў, ужо нават і ў раённых цэнтрах; знаходзіць іх на правядзенне "славянскіх базараў" і танкава-авіяцыйных дэфілядаў з дарагушчымі феерверкамі на 3 Ліпеня... Толькі вось як не было, так і няма ў нашай краіне ніводнага Дома беларускай мовы, няма Нацыянальнага ўніверсітэта з роднай моваю, няма хоць бы аднаго кінатэатра, дзе б рэгулярна дэманстраваліся фільмы па-беларуску, няма і адмысловай студыі, якая б займалася беларускім дубляжом гэтых самых фільмаў і тэлепраграм. А Дом літаратара, пабудаваны ў часы Пятра Машэрава, не з волі беларускіх пісьменнікаў ператварыўся "проста" ў адміністрацыйны будынак Кіраўніцтва спраў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які гасцінна адчыніў дзверы, да прыкладу, рэстарану грузінскай кухні "Тыфліс"...



*Удзельнікі Трэцяга сусветнага кангрэса перакладчыкаў польскай літаратуры ў Кракаве.*

**Фота Агнес МОЕН (Інстытут кнігі, Кракаў).**

НА ЗАМЕТКУ!

# Ешьте морковь и будьте здоровы

*Привычную морковь медики называют "забытым лекарем". И это действительно так. Морковь помогает избавиться от многих заболеваний, скинуть лишние килограммы и вернуть здоровый цвет лица.*



В первую очередь морковь ценна высоким содержанием каротина, который в организме превращается в витамин А. Кроме того, в этом овоще много витаминов С, группы В, D и Е. Морковь богата минералами и микроэлементами: в ней содержатся калий, кальций, железо, фосфор, йод, магний и даже марганец.

Врачи советуют употреблять морковь ежедневно, причем желательно в вареном виде. Дело в том, что полезных веществ в вареной моркови в два раза больше, чем в сырой. А чтобы каротин лучше усваивался организмом, есть морковку лучше с растительным маслом или сливками.

Особенно полезна морковь при инфарктах миокарда, стенокардии, атеросклерозе, почечно-каменной болезни, анемии, болезнях желудочно-кишечного тракта, авитаминозе и малокровии.

Морковь — незаменимое средство при ангине и других болезнях горла. В этом случае следует употреблять морковный сок с медом. Для получения сока пропустите овощи через мясорубку, отожмите сок, смешайте с медом и принимайте по одной столовой ложке четыре раза в день. Это лекарство поможет избавиться от неприятных ощущений в горле в кратчайшие сроки.

При бронхите, трахеите и пневмонии можно принимать свежевыжатый сок моркови с молоком, смешанный в равных пропорциях. Употребляйте полученную смесь по одной столовой ложке не меньше пяти раз в день.

## *Витамин красоты*

***Витамин А, содержащийся в моркови, в народе принято считать "витамином красоты". Особенно полезны морковные маски для лица и шеи.***

При сухой коже подойдет следующая маска. Отварите две небольшие моркови и разомните их вместе с медом. Полученную массу нанесите на лицо и через 15 минут смойте. Также при сухой коже полезно делать маску, смешав чайную ложку морковного сока с чайной ложкой творога и сливок.

Тем, у кого жирная кожа, следует регулярно делать следующую процедуру. Натертую морковь разложите на марле, предварительно смоченной в морковном соке, и положите марлю на лицо на 20 минут. Такую процедуру следует проводить дважды в неделю.

При медленном росте волос отлично помогает смесь морковного и лимонного соков. Если будете втирать сок хотя бы дважды в неделю, волосы приобретут красивый блеск.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл. (017) 3286871.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906**
**nvonlineinfo@gmail.com**
**http://www.nv-online.info**

ISSN 2071-9647

9 772071 964000 13053

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 8.07.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26330 экз. Заказ №2907.**